# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 46 (3001) Год LVIII | Беласток, 17 лістапада 2013 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


Міхал Федароўскі→5


Занятак навейвае думкі→8

# Месца пад сузор'ямі

## (Памяці Міхася Шаховіча) 1953 - 2000

У гэтым годзе, 20 лістапада, Міхасю Шаховічу, нашаму земляку, беларускаму паэту споўнілася б 60 гадоў. Круглая дата была б, пэўна, святам і для яго, і ўсіх нас. Аднак жа без яго прысутнасці... застаецца толькі ўспамін і паклон ягонаму ворліку. Адзначаючы гэту дату, аддаем пашану таленавітай асобе. Жыве сказанае ім паэтычнае слова — шчырае, трымклівабалючае, вобразнае, індывідуальнаарыгінальнае, беларускае, нашае.

Біяграфія М. Шаховіча была, што бачылася і раней, досыць звычайнай і ў нечым банальнай, характарыстычнай шмат чым для большасці беларускіх маладых людзей у Польшчы першых трох пасляваенных дзесяцігоддзяў. Народжаныя ў вясковым асяроддзі, яны ішлі ў гарады вучыцца, многія атрымлівалі вышэйшую адукацыю, выходзілі ў людзі, жаніліся, бывала, з палякамі і часта — па закліку ўнутранага голасу або любові сэрца — вярталіся на радзіму, у свае палестыны. Схіляем галаву перад усімі тымі, хто не здрадзіў сваёй зямлі, народу і мове. Адным з іх быў і Міхась Шаховіч.

З дыпломам філолага-беларусіста М. Шаховіч спачатку працаваў журналістам у „Ніве", затым даўжэйшы час быў супрацоўнікам польскамоўнага ні то літаратурна-публіцыстычнага, ні то палітычна-грамадскага і культуралагічнага часопіса „Кантрасты", які таксама выдаваўся ў Беластоку. Месца працы прымушала выказвацца ў жанрах далёкіх ад мастацтва. І тое, што ў перыяд якраз станаўлення творчай індывідуальнасці Шаховіча, ён не цалкам аддаваў сябе самога паэтычнай музе, несумненна стрымлівала развіццё закладзенага ў ім моцнага і здаровага паэтычнага патэнцыялу. Бо перад Шаховічам ніяк не вырысоўваўся шлях празаіка ці нават публіцыста: не хапала патрэбнага і значнага багажу ведаў, інтэлектуальнай разняволенасці, магчымасці доўгага і сістэмнага мыслення аб знешнім чалавечым свеце. Па сваім жыццёвым вопыце, драматычных завязках і развязках сваёй жыццёвай дарогі, па псіхалагічных фактарах Шаховіч мог быць і быў выключна паэтам-лірыкам.

Тэмы паэтычных твораў Шаховіча, якія ў яго паўтараліся, вар'іраваліся, як паўтараліся і ягоныя сімволіка і топасы (час, ноч, світанак, дарога, падарожжа, самотнасць і інш.), выяўляюць асноўную прызму, праз якую ён глядзеў на свет і чалавека ў ім. А свет ягоны, як і для ўсіх „белавежцаў", быў памежны, раздвоены, разломлены, разбіты, распалавінены, несуцэльны, нестабільны і няпэўны будучыні, свет, у якім знешняе не супадала з унутраным, суб'ектыўнае з аб'ектыўным, слова з учынкам. Множылася безліч пытанняў. Адказу на іх і ратунку Шаховіч не шукаў у кніжнай мудрасці, а ў нажытай сваёй філасофіі жыцця. Усе вялікія і малыя (грамадскія, нацыянальныя, сямейныя) калізіі, канфлікты, супярэчнасці, звады паэт прапускаў праз жывога тут і цяпер Чалавека, Асобу, гэта значыць праз сябе — праз свае нервы, свае мікрасэнсары, свой вопыт, урэшце сваю сетку каштоўнасцей, у якой найбольшае месца займала сыноўняя любоў да народнай стыхійнай культуры. З ягоных вершаў і лірычных паэм вырысоўваецца па-свойму тыповы вобраз беларуса — чыстага і добрага чалавека, адукаванага сялянскага інтэлігента, праўдалюба, які амаль па-дзіцячы шчырымі вачыма глядзіць на беспардонна-абыякавую чалавечую рэчаіснасць і светлай, добрай душою не можа прыняць, не можа зразумець таго, што дзеецца навокал яго і з ім.

Гэтым Міхась Шаховіч і вызначыў сабе месца „пад сузор'ямі" ў нашым паэтычным свеце.

Ян ЧЫКВІН


Фота Кацярыны ВАЎКАВЫЦКАЙ

Ян ЧЫКВІН

## Кропля сну

Сніцца мне, што Шаховіч ідзе па моры,
Па калена ў вадзе, у руках — залатая рыбка,
Нібы з Сакоў сваіх утравелаю сцежкай у горад,
Дзе Насця яго тчэ для іх дваіх светлы лёс-кілім,
Ды без Міхася не можа ніяк яго выткаць.

Прачнуўся... Успомніць, што сніў, было марна:
То стогны хваль, то сонца гудзеў пераможны звон
І падаў ды падаў ў ваду бераг янтарны,
Па якім, выйшаўшы з водаў, ішоў да мяне невідзімкай
Стары чалавек з маладым жыццём.

## Успамін пра Міхася



З Міхасём Шаховічам мы ад дзяцінства — суседзі. Мой хутар Зубава знаходзіцца каля шасці кіламетраў ад роднай вёскі Міхася — Сакоў. Мы належалі да аднаго праваслаўнага прыхода ў Пасынках. Пакуль мы не пазнаёміліся бліжэй, я прыкмеціла яго на вясковых забавах, на святы Іаана Хрысціцеля 7 ліпеня. Калі я пачала ад 1975 г. працаваць у Беластоку, ідучы службова ў банк, я часта па дарозе заходзіла ў рэдакцыю „Нівы" па тадышняй вуліцы Весялоўскага і наведвала блізкіх мне працаўнікоў рэдакцыі. У той час я з'явілася карэспандэнткай „Нівы" і друкавала свае вершы ў „Парнасіку". Памятаю Міхася заўсёды вясёлага і ветлівага. Ён пераглядаў мае першыя вершы і ўносіў свае заўвагі. Гэта быў для мяне пазітыўны штуршок, каб пісаць далей. Заўсёды Міхась меў для мяне хвіліну часу, прапанаваў каву ці гарбатку, але я не магла доўга затрымліваць. Калі я пераехала жыць і працаваць у Бельск-Падляшскі, таксама будучы ў камандзіроўцы ў Беластоку, забягала ў рэдакцыю. Я пацікавілася паэзіяй Міхася і захапілася яе шчырай прастатой, зразумелым тэкстам, які ўносіў у маю думку штосьці прыгожае і, мабыць, і для мяне гэта было натхненне, каб тварыць свае вершы. Міхась, так як і я, вырас сярод квітнеючых лугоў і садоў, нас зачаравала казачная прырода. Сустракаліся мы ў Бельску на семінарах, але ўжо менш, аж дайшла да нас сумная вестка, што Міхась памёр. І вось у 60-ю гадавіну з дня яго нараджэння аддаю яму нізкі паклон, таму што гэта таксама вялікая страта для Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа".

Жэня МАРТЫНЮК





# Паводле Высоцкага

Здавалася, што ўжо ўсе стаміліся, і стаміліся ад усяго. Грамадская актыўнасць зрабіла выгляд, што пайшла ў глыбокае падполле, прычым недзе далёка за межы Беларусі. Нават свята, прысвечанае памяці паўстанцаў 1863 года, якім па ўжо дваццацігадовай традыцыі нацыянальна свядомыя актывісты Гарадзеншчыны пачынаюць „Дзяды", атрымалася даволі малалюдным. Хоць і дата была юбілейная, і на пачатку года ўплывовыя арганізацыі ды вядомыя постаці цэлы аргкамітэт зляпалі з распісаным планам актыўных дзеянняў на ўвесь юбілейны тэрмін. І трэба аддаць ім належнае — план быў някепскі.

Але масавасць не атрымалася ні з боку актыўнага грамадства, ні з боку саміх аргкамітэтчыкаў. І калі з грамадствам усё зразумела, яму, як спяваў класік, важака не хапала, то з важакамі справа загадкавая. Не з усімі, канечне. Той-сёй быў. Але ж дата якая! Сто пяцьдзесят гадоў з моманту магутнага ўсплёску нацыянальнага адраджэння. У такі юбілей колькасць лідараў, якая вызначаецца займеннікам той-сёй, гэта замала.

Вось і здавалася, што ўсе стаміліся. Моцна стаміліся. Бо не толькі Дзень памяці паўстанцаў масава не наведалі рэспубліканскія знакамітасці, як у выбарчыя гады гэта рабілі, але і іншыя мерапрыемствы ладзяць зараз ледзь не адзінкавыя людзі. Сіратліва так глядзяцца тыя мерапрыемствы. Як жарабятка, што адбілася ад маці.

Ды вось не ў стомленасці, аказваецца, справа. Бо як толькі гаворка заходзіць пра маючыя адбыцца выбары ў мясцовыя саветы, актыўнасць цэлага шэрагу і асоб, і арганізацый, пачынае зашкальваць. Ужо і блокаў нарабілі, і планаў набудавалі, і прычыны прыдумалі чаму і на гэты раз апазіцыя прайграе.

Галоўнай прычынай ужо агучваецца раз'яднанасць апазіцыі. Толькі вось аніяк не магу ўцяміць хто яе раз'яднаў. Бо нідзе і ні ад каго я не чуў, і нідзе не чытаў, што дэмакратычная кааліцыя самараспусцілася, ці яксьці па-іншаму развалілася. Пачынаючы ад знакамітай „Пяцёркі плюс" і заканчваючы „Дзесяткай", ніхто не паведаміў, што аб'яднаныя дэмакратычныя сілы нехта пакідае. Усе толькі далучаліся да іх. І вось раптам аказалася, што на рэштках некалі аб'яднанай апазіцыі ўжо створаны новыя блокі. І левыя, і правыя, і пасярэдзіне хапае. Сам чорт не разбярэцца. Вядома, без дапамогі спецслужб не разбярэцца, а з дапамогай — лёгка, бо тыя ва ўсім разбіраюцца.

Няясным застаецца толькі адна вельмі важная дэталь — хто гэта такі башкавіты аўтар падобнага сцэнару. Бо геніяльнасць гэтага аўтара, ці мо аўтараў, аж настолькі вялікая, што простыя смяротныя аніяк не могуць дапетрыць, за што цяпер змагацца будзем.

Вось палітычныя сцэнары пачатку 1990-х былі больш зразумелымі — Беларусь, воля, незалежнасць, беларусізацыя, годнасць... Прынцыпы простыя, даступныя для разумення ўсім, і ўсім адразу ясна, хто за што змагаецца і пад якімі сцягамі стаіць. Ды і хто сцэнар пісаў было вядома. Тады хто б ні пісаў сцэнар, той сам быў і рэжысёрам, і нават акторам. Можа таму і іншыя прыхodзілі не толькі паўзірацца, але і непасрэдна паўдзельнічаць. Бо яны таксама лічылі, што гэта і іх сцэнар у пэўнай меры, і іх пастаноўка. Хіба таму і поспех быў такі, які быў. Незалежнасць тады адваявалі і іншыя рэчы, пра якія і абвяшчалі — Беларусь, воля, беларусізацыя, годнасць...

Ды вось пасля з'явіліся людзі з разумнымі тварамі і сталі павучаць. Казалі, што такі панятак як, прыкладам, беларусізацыя, не ўсім даходзіць. Трэба з людзьмі гаварыць пра каўбасу. Вось і па сённяшні дзень пра каўбасу гаворка не канчаецца. То ў выглядзе замежных інвестыцый тая каўбаса, то ў выглядзе крэдытаў. А знайшліся і тыя, хто паабяцаў яе ў выглядзе таннага расійскага газу.

Здавалася б, ужо дурню ясна, што пара вярнуцца да таго, што спрацоўвала. Да тых каштоўнасцей, за якімі і ішла актыўная частка грамадства. Дурню то зразумела. Але няма ўжо дурных сярод сённяшняй эліты. Ну а шырокая грамадскасць па-ранейшаму стаіць на сваім. Не зракаюцца слоў Валодзі Высоцкага: „Не зрабілі мы скандала, важака нам не хапала... Бо сапраўдных буйных мала, і няма, вось, важакоў...".

**Віктар САЗОНАЎ**

# Краса ўлады



Плётка ў Беларусі, верагодна, апошняя не ахопленая прэзідэнцкімі забаронамі прастора сацыяльнай камунікацыі. Я не сумняваюся, што гэта звычайны недагляд улады і гэтая памылка будзе выпраўлена ў бліжэйшы час. Верагодна, ужо працягваюцца працы над паўсюднай пастановай забароны на пляткаванне. Магчыма, гэтым самым указам будуць ахоплены сваякія плётцы: невыразнае мармытанне сабе пад нос, шэпты па кутках, а таксама смаленыя дубы, глупствы і плеценыя кашалі. Здаецца, аднак, што Аляксандр Лукашэнка не мае ясных у праблеме дакладнага меркавання. Пытанне аб тым, ці зачыніць морды народу на замок, ці дазволіць яму свабодна кашалі плесці або гаварыць бязглуздзіцу, пакуль застаецца адкрытым. Праблема ў тым, што як толькі ўлада зачыніць каму-небудзь рот, то цяжка вызначыць, ці маўчыць ён таму, што ён адчувае павагу ў адносінах да ўлады, ці нешта задумвае ў цішыні. Гэтая дылема адсланілася на хвіліну ў публічным выступе прэзідэнта Беларусі, дзе ён аблаяў «чынуш», якія хочуць закрыць рот людзям. Паводле яго слоў, «чалавек, які адрабіў свой час працы, мае права ў пэўных месцах, у доме, як у праўдзівай дэмакратычнай дзяржаве, выказваць свой пункт гледжання, і ніхто не мае права яму мяшаць». Яго словы можна было б надрукаваць залатымі літарамі, нават і на футболках, але калі б не адно але. У праўдзіва дэмакратычнай дзяржаве свабоды слова дома не закрываюць. Якраз наадварот. Хадзяць з ёю па кафэ, водзяць яе па вуліцах. Можна пры гэтай нагодзе пляскаць уволю — абы не ў начны час. Ці прахаджвацца ў футболцы з любым крытычным надпісам. Абы толькі не зняважлівым. Я не думаю, што словы, якія насіў на сваёй майцы Юры Рубцоў — спераду: «Лукашэнка, сыходзь», а ззаду — «Чатыры тэрміны прэзідэнтам? Не, гэта не прэзідэнт, а царсамазванец» былі абразлівымі. Аказалася, што Беларусь, насуперак унушэнню прэзідэнта Беларусі, гэта не па-сапраўднаму дэмакратычная дзяржава. Вальнадумныя надпісы Рубцова былі неадкладна арыштаваны, як толькі высунулі нос за дзверы яго дома. Прытым разам з майкай і самім Рубцовым. Падобна, гэта апошні ўжо выйшаў на свабоду. Хаця я лічу, што змяню толькі малы арышт на большы. Аб яго непакорнай футболцы вядома толькі, што жорстка падзейнічалі на яе адбельвальнікам. Хадзяць чуткі, што свае пальцы макалі ў гэтым спецслужбы. Аднак дзе прапалі антылукашэнкаўскія надпісы, гэтага нават самая маленькая плётка не кранае. Мо хто толькі мармыча нешта сабе пад нос.

Пад нос мармытаў сабе таксама Ігар Пастноў, лекар з Віцебска. Праўда, у іншы час, але на тую ж тэму. Так мармычучы на вуліцы, мармычучы дома, бессаромна перад сваімі, аж дамармытаўся. Медыцынская камісія, спантанна створаная яго калегамі з лякарні, аб'явіла ў яго комплекс «псіхатычных расстройстваў і маніякальнай атакі ўлад». Вядома, такі дыягназ кваліфікаваў Пастнова на закрытае лячэнне. Прытым на нявызначаны тэрмін. Толькі тады, калі яго справай зацікавілася міжнародная арганізацыя Amnesty International, хворы раптам паздаравеў. І ў адно імгненне, можна сказаць, цудоўна. На жаль, знаходжанне ў псіхіятрычным аддзяленні, якое прыцягвалася некалькі месяцаў, адбіла на яго псіхіцы трывалы след: мармытанне ператварылася ў яго ў палітычную апантанасць.

Палітычная апантанасць у Беларусі прымае розныя формы. У некаторых яна выяўляецца шматгадзінным мармытаннем сабе пад нос, калі толькі пачуюць па радыё голас свайго прэзідэнта. Другіх стымулюе да шматгадзіннага пляскання само ўяўленне яго твару. Яшчэ іншых ахоплівае апантанасць укладвання шматзначных фігур з пальцаў, асабліва сярэдніх. Таму ўлады не цярпяць публічнага паказвання любых жэстаў. Стойка «рукі па швах» з'яўляецца паводле яе ўзорнай мадэллю грамадскай экспрэсіі. Такім чынам, не дай Бог, каб хтось, гледзячы на цану хлеба ў краме, схапіўся за галаву. У такім жэсце ўлада можа ўглядзець сімвалічнае сарванне галавы — ёй, уладзе! Хоць ходзяць чуткі, што ёй галава для нічога непатрэбная, што відаць па эфектах кіравання, але, вядома, не пра кіраванне гаворка, а пра прыгажосць улады. Таму што брыдкай улады не любіць ніхто.

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Грамадзянскія бульвары

Несумненна, што ідэя стварэння бульвараў св. Іаана Багаслова ў Беластоку (у мікрараёне ТБС) выйграла першы конкурс на праекты, якія будуць ажыццяўляцца ў рамках вылучанага бюджэту, званага грамадзянскім. Агулам для грамадзянскага бюджэту беластоцкія ўлады адвялі 10,3 млн. злотых, якіх хопіць на сем інвестыцый. Ідэя бульвараў, якая прадугледжвае добраўпарадкаванне двух гектараў аблогаў, цягнуўшыхся паўз вуліцу Збігнева Герберта, атрымала амаль 6 тысяч галасоў. Арыенціровачны кошт праекта складае 1,4 млн. злотых. Ідэя выйшла ад мясцовага праваслаўнага прыхода св. Іаана Багаслова, а да яе падтрымкі ўдалося прыцягнуць таксама каталіцкія парафіі, школы і дзіцячыя сады ў гэтым мікрараёне. Айцец Міхал Чыквін з прыхода св. Іаана Багаслова, адразу пасля абвяшчэння прэзідэнтам горада Тадэвушам Трускаляскім у прысутнасці журналістаў выніку плебісцыту сказаў:

— Горад засяліў наш мікрараён, але на самой справе не падумаў, каб жыхары мелі што рабіць. Праект задуманы нашым прыходам у месцы, дзе ніхто нічога не планаваў.

Раней, у інтэрв'ю штомесячніку «Przegląd Prawosławny», ён адзначыў:

— Бульвары будуць спрыяць развіццю грамадзянскай супольнасці, добрым міжасобасным адносінам, актывізацыі і супрацоўніцтву мясцовых устаноў. Таксама будуць мець свой уклад у прасоўванне добрага выхавання моладзі і барацьбу з паталогіямі. Асабіста я ганаруся тым, што задума выйшла з праваслаўнага прыхода.

Па вуліцы Гуга Калантая маюць быць створаны зялёныя зоны і дзіцячая пляцоўка для гульняў, за дзіцячым садам па вуліцы Збігнева Герберта ўзнікне амфітэатр. Канцэпцыя, якую стварыла архітэктарка Ганна Наумюк-Якуц, улічвае таксама дарожкі для прагулак, трэнажорню пад хмаркай, новыя пасадкі расліннасці. Цэласць ахопіць маніторынг. Ідэю пад плебісцыт заявіў радны Адам Мусюк.

Да абяцанай гарадскімі ўладамі рэалізацыі грамадзянскіх ідэй кваліфікавалася таксама «Вэнглёва», то-бок, ідэя выкарыстання былога ваеннага склада, дзе ўзніклі б спартыўнаадпачынкавыя пляцоўкі, а таксама новыя пераходы праз пуці ад вуліцы Палескай, пераправа праз раку Белую ў раёне мікрараёна Антанюк, Цэнтр гарадскога спорту, дзе можна было б займацца паркурам, гімнастыкай, акрабатыкай ці брэйк-дансам, мікраараённая вуліца на Бацечках, пракат ровараў і лыж на Пятрашах, спортпляцоўкі на Пячурках, Беласточку і Старасельцах. Падчас размовы з журналістамі, прэзідэнт Трускаляскі запэўніваў, што інвестыцыі будуць ажыццяўляцца ў адпаведнасці з задумамі.

Задумшчыкам беластоцкага грамадзянскага бюджэту быў радны Марыюш Нагаеўскі. Падчас абвяшчэння вынікаў плебісцыту ён сказаў:

— Я веру ў мудрасць жыхароў. Выйгралі зялёныя канцэпцыі, што паказвае адкрытасць беластачан.

Праекты для рэалізацыі гэтай часткі бюджэту былі выбраны са спісу праектаў прадстаўленых жыхарамі, якія раней былі станоўча ацэнены з фармальна-юрыдычнага пункту гледжання з больш чым 180 заяўленых. Можна было галасаваць на 51 праект па інтэрнэце і на спецыяльных картах у некалькіх кропках для галасавання ў горадзе, і кожны выбаршчык мог выбраць да пяці праектаў. Галасаванне працягвалася амаль тры тыдні ў кастрычніку. У агульным беластачане аддалі амаль 40,6 тысяч галасоў, з якіх, аднак, амаль восем тысяч было несапраўдных: альбо жыхары прагаласавалі некалькі раз, альбо яны былі непаўналетнімі, або не былі прапісаныя ў Беластоку.

Нягледзячы на поспех, аб якім можна сказаць у выпадку беластоцкага грамадзянскага бюджэту, асабліва беспрэцэдэнтнага ў агульнаграмадскім вымярэнні поспеху прыхода Іаана Багаслова, цяжка не пагадзіцца з радным Нагаеўскім, які сам паведаміў на сваім блогу: «Нераўнамерны ключ фармальнай верыфікацыі праектаў, перавага канцэпцыі мадэрнізацыі горада над праектамі грамадзян, магчымасць рэалізацыі толькі інвестыцыйных праектаў (без указання вызначэння інвестыцыі) гэта ўсяго толькі некаторыя з папрокаў, якія ставяцца сёлетняму праекту. Паяўляюцца таксама розныя прапановы мадыфікацыі правілаў бюджэту, напрыклад падзел яго на розныя часткі горада, ці ўвядзенне камісіі з жыхароў для верыфікацыі прадстаўленых праектаў, існуе неабходнасць вызначыць час для рэалізацыі выбраных заданняў на год ці два, без сумневу, удакладненне патрабуе рэжым выбару пераможных праектаў і многае іншае. Кожная з гэтых прапаноў патрабуе абмеркавання і ні з кім іншым, чым жыхарамі горада». І далей: «Перад намі самая важная частка — рэалізацыя, у час якой узнікне шмат няяснасцей. Для таго, каб спраўна перайсці праз гэтую стадыю, я зрабіў праект рэзалюцыі, якая прадугледжвае стварэнне спецыяльнай часовай камісіі па справах грамадзянскага бюджэту ва Управе горада Беластока. Камісія будзе сачыць за ходам ажыццяўлення і выканання грамадзянскага бюджэту на 2014 год, весці маніторынг рэкламнай і інфармацыйнай акцыі грамадзянскага бюджэту ды апрацаванне правілаў грамадзянскага бюджэту на 2015 год. Я думаю, што гэтая камісія дазволіць удакладніць усе няяснасці ў сёлетнім грамадзянскім бюджэце, але перш за ўсё створыць умовы для размовы над формай грамадзянскага бюджэту на 2015 год».

Ну, вось. Зараз, каб маглі быць пабудаваны бульвары св. Іаана Багаслова, беластоцкія ўлады (гэтыя і чарговыя — самаўрадавыя выбары праз год) павінны адчуваць абавязанасць выканання рэалізацыі пераможнай дамовы з грамадзянамі. А пагадненне гэтае джэнтльменскае, з сумнеўнымі абавязковымі ўмацоўкамі. Джэнтльменскае — толькі, або аж.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Стаўка на беларускую мову

**Традыцыя навучання роднай беларускай мове ў школе ў Орлі доўгая, а ад нейкага часу гэта пацверджана ў назве школы — Комплекс школ з дадатковым навучаннем беларускай мове імя Арлянскай зямлі ў Орлі. За назвай ідуць у гэтай школе таксама намаганні заахвоціць як найбольш бацькоў, каб пасылалі сваіх дзетак на ўрокі беларускай мовы. У гэтым школьным годзе ўсе вучні першага класа сталі вучыцца беларускай мове і ёсць надзея, што можа гэта стаць традыцыяй у Арлянскай гміне. Школе і гмінным уладам у Орлі важна, каб выпускнікі падставовай школы працягвалі адукацыю пабеларуску ў мясцовай белгімназіі.**



Усе дзеткі першага класа Падставовай школы ў Орлі вучацца беларускай мове (ззаду дырэктар школы і заадно іх настаўніца беларускай мовы Марыя Томчук)

У першым класе беларускай мове стала вучыць дырэктар Марыя Томчук. Яна асабіста размаўляла з усімі бацькамі першакласнікаў, заахвочвала запісаць дзетак на ўрокі беларускай мовы і рэзультат гэтых размоў можна назваць асабістым поспехам спадарыні дырэктар.

— Зараз у нашым Комплексе школ беларускай мове вучыцца больш за палову вучняў. Мы хацелі б палепшыць гэты паказчык. Я ў мінулым школьным годзе займалася адну гадзіну ў тыдзень з дашкольнікамі, якія сёлета сталі першакласнікамі і ў размове з бацькамі заахвочвала іх запісаць дзетак на ўрокі беларускай мовы. Трэба было растлумачыць, што заняткі не будуць складанымі, а вучні ў першым класе не будуць пісаць, а толькі вучыцца размаўляць па-беларуску, развучваць цікавыя песні, вершыкі, а нават добра гуляць, — сказала дырэктар Марыя Томчук, якая ў асноўным вучыць у школе расійскай мове. — У першым класе 6 дзетак ходзіць на ўрокі праваслаўнай рэлігіі, 5 — каталіцкай, а адно дзіця не ходзіць на ўрокі рэлігіі. Таму трэба было заахвоціць таксама бацькоў, для якіх беларуская мова не з'яўляецца іх роднай, толькі мовай суседзяў. Мы рады, што ўсе першакласнікі вучацца па-беларуску. Маюць яны таксама магчымасць займацца тры гадзіны ў тыдзень па-англійску. Усё гэта спрычыняецца да іх намнога лепшага моўнага развіцця.

Калі я спаткаўся з першакласнікамі, найбольш адважныя сталі адказваць на мае пытанні.

— Мы любім спяваць па-беларуску, — заявіў хлопчык і праспяваў песню на роднай мове. Стаў ён таксама дэкламаваць па-беларуску і заявіў, што ў яго хаце гавораць па-свойму. Яго сяброўка праспявала кавалак іншай песні. Дзеткі згодна заявілі, яшчэ па-польску, што беларускія заняткі вельмі цікавыя з-за гульняў і што любяць сваю настаўніцу.

— Дзеткі вельмі любяць спяваць, вучацца таксама дэкламаваць кароценькія вершыкі, канешне, яшэ без ведання літар. Вельмі любяць яны гуляць. У час гульняў знаёмяцца з новымі беларускімі словамі. Частка вучняў чуе дома выказванні сямейнікаў па-свойму, але паўтарыць такія словы патрапіць толькі некалькі дзетак і ім, канешне, лягчэй вучыцца беларускай літаратурнай мове (хаця б з-за ведання імі рухомага націску — А. М.). Але і больш здольныя, цалкам польскамоўныя дзеткі, хутка засвойваюць паасобныя беларускія словы, — гаварыла настаўніца наймалодшых вучняў, дырэктар Марыя Томчук, якая адзначыла, што вучні яе школы паспяхова прымаюць удзел у дэкламатарскіх конкурсах «Роднае слова» і «Паэтычнае трохгалоссе», у конкурсе беларускай песні для школьнікаў і ў конкурсе «Пазнай Беларусь», а таксама ў прадметным конкурсе па беларускай мове.

— Мы стараемся, каб заняткі па беларускай мове былі ў нашай школе цікавымі. Чытаем на занятках апавяданні, казкі, пасля размаўляем пра прачытанае, дзеткі паказваюць тое, што рабілі героі. Вучні развучваюць вершыкі, рашаюць загадкі і гуляюць, карыстаючыся беларускімі словамі, а таксама спяваем па-беларуску. Дзеткі любяць пісаць на дошцы. Калі робяць памылкі, мы з іншымі вучнямі адразу іх выпраўляем. Я стараюся карыстацца рознымі метадамі, каб толькі зацікавіць вучняў, бо гэта самае важнае ў нашай працы, — сказала настаўніца беларускай мовы ў падставовай школе Марыя Лемеш і назвала прозвішчы вучняў, якія вылучаюцца ў беларускамоўных конкурсах: Моніка Зырчук-Жар, Сандра Пятроўская, Дар'я Несцярук і Вікторыя Пэплінская.

У школе дзейнічае тэатральны гурток. Яго ўдзельнікі паспяхова выступалі па-беларуску на аглядах беларускіх тэатральных калектываў. Юныя акцёры займаюцца пад наглядам Алы Зінкевіч і настаўніцы беларускай мовы Марыі Лемеш. У школе беларускай мове вучаць тры настаўніцы па імені Марыя. Трэцяй з іх з'яўляецца Марыя Саевіч, якая роднай мове вучыць у белгімназіі. Там менш вучняў вучыцца па-беларуску, але ёсць надзея, што гэта памяняецца ў лепшы бок.

Вялікі школьны будынак быў збудаваны ў Орлі ў 1992 годзе. Спартыўная зала пры гэтым будынку будавался пазней на спецыяльныя сродкі з бюджэту Міністэрства адукацыі, прызначаныя для беларускай нацыянальнай меншасці (падобным чынам будаваліся будынкі Гайнаўскага белліцэя і школ у Нараўцы і Кляшчэлях). Зараз у прадшкольным аддзяленні, падставовай школе і белгімназіі ў Орлі займаецца разам 200 вучняў. Настаўнікі рады, што ў школе працуе рэгіянальная ізба, у якой сабраны даўнія прылады працы і вырабы.

— У нашай школе вельмі добрыя ўмовы для адукацыі, пазаўрочнай дзейнасці і разгортвання спартыўных зацікаўленняў і ўмеласцей вучняў. Гэтыя ўмовы, па меры магчымасцей здабывання вонкавых сродкаў на інвестыцыі, стараемся паляпшаць. Нядаўна здалі мы ў карыстанне пляцоўку для гульняў у рамках праграмы «Радасная школа», дзе палову сродкаў на інвестыцыю перадало Міністэрства адукацыі, а другую палову атрымалі з гміннага бюджэту. На пляцоўцы дзеткі ўжо гуляюць пад наглядам настаўнікаў і бацькоў, бо яна — агульнадаступная для мясцовай грамадскасці. Раней была здадзена ў карыстанне спортпляцоўка «Орлік», на якой побач тэніснай, валейбольнай і футбольнай пляцовак маецца тартанавая бегавая дарожка, зробленая з прымяненнем навейшых тэхналогій, і няма іншай такой у Бельскім павеце, — сказала дырэктар Марыя Томчук.

«Орлікам» карыстаюцца вучні ў час заняткаў і пазаўрочных трэніровак, агульнадаступны ён таксама для мясцовай грамадскасці. Аніматар спорту Тамаш Грыгарук з'яўляецца асобай адказнай за выкарыстанне «Орліка» ў пасляабедні час і можа даваць парады асобам, якія хочуць займацца спортам. Разам з вялікім дыдактычным будынкам і вялікай спартзалай усё гэта састаўляе вялікі і прыгожы адукацыйна-спартыўны комплекс. У школе ёсць свая кухня і сталовая, святліца, у якой вучні займаюцца пасля заняткаў, два камп'ютарныя кабінеты, прыгожая бібліятэка, дзве інтэрактыўныя дошкі, якімі вучні любяць карыстацца.

Пляцоўка для гульняў у арлянскай школе была здадзена ў карыстанне 17 кастрычніка. Падчас урачыстасці прысутныя былі дырэктар Дэпартамента культуры і нацыянальнай спадчыны Маршалкоўскай управы ў Беластоку Анатоль Вап, войт Пётр Сэльвесюк і старшыня Рады гміны Орля Аляксандр Клін. У гэты дзень адбылося таксама падвядзенне вынікаў праекта «Глядзі — чалавек! У бок міжкультурнай адукацыі», рэалізаванага ў перыядзе ліпень-верасень Гмінным асяродкам культуры ў Орлі ў супрацоўніцтве з Дэпартаментам культуры і нацыянальнай спадчыны МУ, які быў яго арганізатарам у чатырох гмінах Падляшскага ваяводства. Вучні ў гэты дзень зачыталі лісты да будучых пакаленняў і закапалі іх у бутэльцы побач новаадчыненай пляцоўкі.

— Паколькі вучні былі найбольш актыўнымі ўдзельнікамі праекта «Глядзі — чалавек!», падвядзенне вынікаў мы рашыліся правесці ў школе, — сказала дырэктар ГАК у Орлі Анна Несцярук. У рамках праекта вучні, між іншым, знялі фільм пра чалавека, які раней жыў у Орлі. Моладзь са школьнага фатаграфічнага гуртка, у супрацоўніцтве з фатографам Пятром Несцяровічам рабіла здымкі, папоўніла іх фатаграфіямі Мікалая Несцяровіча і з дапамогай дарослых арганізавала выстаўку пад загалоўкам «Падляшскія партрэты — Орля», якая прэзентавалася, між іншым, 1 верасня на фэсце «Арлянскія сустрэчы». У ходзе рэалізацыі праекта вучні выконвалі творчыя мастацкія працы, ангажаваліся ў дзейнасць тэатральнага гуртка ў Гмінным асяродку культуры.

У школе дзейнічае рэгіянальны гурток. Вучні займаюцца ў ім пад наглядам настаўнікаў Міраславы Раманюк, Дар'юша Гарадэцкага і Анны Баршчэўскай. Так як і ў мінулых гадах дабіваліся яны поспехаў на агульнапольскіх конкурсах. Матэвуш Карпюк з Рудутаў зняў фільм «Мая бабуля Зоя» пра Зою Майстровіч. Дзям'ян Таранта, Соня Вархол і Марцін Астапчук у рамках праекта «Пакажы мову» знялі фільм аб выпечцы хлеба спадарыняй Зінай Шымчук, якая расказвала аб выпечцы на сваёй мове.

— У час працы над такімі фільмамі вучні запісваюць мову нашых продкаў і вучацца ёй, — лічыць дырэктар Марыя Томчук і дабаўляе, што школьная моладзь займаецца нават у гуртку вудзільшчыкаў, які дзейнічае пад наглядам настаўніка Юрыя Назарэвіча.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

## Непрыдатная сыравіна

Ад ліпеня ўступіў у сілу закон аб гаспадарцы нечыстотамі. Арганізаванне зборкі, як і вывазкі адпадаў належыць да кампетэнцыі самаўрадаў. Закон выклікае шмат спрэчак наконт ставак платы, якую абавязаны несці грамадзяне. Да кола апазіцыянераў і я залічваюся. Але ёсць і іншая справа. Закон прадбачвае паніжэнне ставак за вывазку нечыстотаў пры сартаванні адпадаў. Збіраецца металалом, паперу, фольгавую ўпакоўку, шкло, жужаль з кацельні, зялёныя адпады, але не напамінаецца аб анучах. Чаму? Няўжо ў рыначнай эканоміцы гэтая сыравіна непатрэбная? Памятаю з мінулага як па вёсках ездзіў анучнік фурманкай і збіраў анучы. Плаціў нядрэнныя стаўкі. Трапкі можна было абмяняць, напрыклад, на кухонную пасуду, шкляныя вырабы і г.д. Пасля анучнікі ездзілі на аўтамабілях. Няўжо дарабіліся на трапках?.. Пры камуне, значыцца, сыравіна трыкатажных вырабаў была патрэбная і аплачвалася, хоць тады працы было ўдосталь. Зараз у дзяржаве маем больш чым пятнаццаціпрацэнтнае беспрацоўе. Лічыцца кожная пара рук. Хапаемся ўсялякай работы, як тапелец брытвы. Але ніхто не падумаў аб зборцы анучаў. Дачка, робячы парадкі, накапіла дванаццаць мяшочкаў вопраткі, абутку ды іншых рэчаў у добрым стане. 4 лістапада выставіў я для харытатыўнай арганізацыі з Мінска-Мазавецкага. Другое ж толькі выкінуў на сметніцу. Знішчанае. Шкада было прызначаць на ўтылізацыю. Ці не варта было б тады заняцца зборкай анучаў у час селектыўнай адборкі нечыстотаў?..

**Уладзімір СІДАРУК**

## Веласіпедныя дарогі

У Беластоку шмат веласіпедных дарожак у цэнтры горада і на перыферыі. Іх з кожным годам усё больш і больш. Зараз іх даўжыня складае амаль сто кіламетраў! Дзе ўжо іх няма. Перадусім там, дзе няма тэхнічных магчымасцей пабудовы дарожак.

Адна з даўжэйшых дарожак — гэта шматкіламетровая прыгожая асфальтавая дарожка побач вуліцы 42 Пяхотнага палка (раней 27 Ліпеня). Тут для веласіпеднай дарожкі пабудавалі нават другі масток на рачулцы Далістоўцы. Гэтая вуліца атрымала новае электраасвятленне. Вядзе яна ў канец горада, за якім пачынаецца лес. Пры некаторых вуліцах дарожкі бягуць паабапал іх, між іншым, на вуліцах Мачка і Клеберга. Зараз найбольш дарожак для веласіпедыстаў будуюць у цэнтры горада. Перш-наперш пры нагодзе перабудовы артэрыяў.

Па-за цэнтрам горада веласіпедысты атрымалі дарожку па вуліцы Баранавіцкай і неўзабаве паедуць на роварах па дарожках па вуліцах Пястоўскай, Берлінга і Пуласкага.

Пры ўсім гэтым важна для веласіпедыстаў, каб сцежкі-дарожкі часцей спалучаліся. Іх ужо не задавальняюць толькі кавалкі дарожак. Добра было б, каб па іх можна было спакойна даехаць у цэнтр горада.

Зараз пашыраюць вуліцу Канстытуцыі 3 Мая на пасёлку Высокі Стачок. Тут будуюць дзве маставыя, веласіпедную дарожку, тратуары і стаянкі для аўтамабіляў. Дзве маставыя і веласіпедная сцежка будуць на вуліцы Вярбовай (яна спалучае Пасёлак Маладых з Антанюком).

**(яц)**

# Вяртанне фон Рамаў

**26 кастрычніка 2013 года ў Міхалове прайшоў I Сусветны злёт сям'і баранесы Вольгі фон Рам. У невялікую мясціну з'ехаліся ўнукі і праўнукі жывучых тут некалі арыстакратаў.**


Сям'я фон Рамаў

Ініцыятарам і галоўным арганізатарам незвычайнага мерапрыемства быў Тамаш Вісьнеўскі з мясцоваай Майстэрні фільма, гуку і фатаграфіі. «Гэта цікавая тэма, я толькі такімі займаюся, — прызнаецца ён нашым чытачам. — Пра фон Рамаў я даведаўся, чытаючы ўспаміны Ніны Горбач і Мечыслава Кастэцкага, апублікаваныя на старонках мясцовай газеты. Мы ўсе ведалі, што ў Геранімове жыла сям'я баранесы Вольгі фон Рам, але гэтая інфармацыя была надта распыленая, быццам у тумане. З уплывам часу яна сціралася, таму амаль год занялі мне пошукі кантактаў з прадстаўнікамі гэтага некалі вядомага тут роду».

Сям'я фон Рам пасялілася у маёнтку Геранімова на пераломе дзевятнаццатага і дваццатага стагоддзяў. Маёнтак прадаў ім генерал Казімір Дзяконьскі. Карані роду Рамаў выводзяцца з Баварыі, адкуль напрыканцы васемнаццатага стагоддзя пераехалі яны ў Курляндыю — сённяшнюю Эстонію. У Геранімове гаспадарылі Аляксандр і Вольга вон Рам. Пражывалі там таксама дзве пляменніцы. Адна з іх малілася у пратэстанцкай кірсе, а другая — у праваслаўнай царкве. Сыны баранесы Вольгі, Юры і Яўген, пажаніліся з адукаванымі шляхцянкамі. Жонка Юрыя — Ірына Мантэйфель была асістэнткай славутай Марыі Складоўскай-Кюры. Яўген звязаўся з Галенай, дачкой вядомага ў Беластоку царскага палкоўніка Мікалая Кавеліна. Жахі Другой сусветнай вайны пакінулі глыбокія раны ў сэрцах геранімоўскіх баронаў. Ваенныя падзеі сур'ёзна падзялілі братоў Юрыя і Яўгена. Першы стаў камандзірам атрада Арміі Краёвай, другі далучыўся да гітлераўцаў. Вайна поўнасцю спыніла існаванне геранімоўскага маёнтка. Хто не рашыўся ўцякаць у Германію, быў арыштаваны саветамі. У 1945 годзе камуністы разбурылі, а потым спалілі палацавыя будынкі.

Да часоў вялікапышнасці маёнтка паспрабавалі звярнуцца ўдзельнікі міхалоўскай сустрэчы. У зале мясцовага дома культуры сабраліся найстарэйшыя жыхары мястэчка, зацікаўленыя знаёмствам з нашчадкамі баранесы Вольгі. За доўгім сталом, спецыяльна нарыхтаваным гасцям, заселі:

— унук баранесы Рышард Рам, выпускнік Варшаўскай палітэхнікі, яго жонка Альжбета, настаўніца французскай мовы і дзве дачкі Клара і Агнешка;

— сястра Рышарда, Альжбета, выпускніца хімічнага факультэта Варшаўскага ўніверсітэта;

— унук баранесы Юзэф Рам — парыжскі стыліст з дыпломам раманістыкі Ягелонскага ўніверсітэта;

— Оляф фон Рам, прафесар Універсітэта Д'юка ў Паўночнай Караліне ў ЗША і яго сын Томас, уладальнік сямейнага палаца ў Эстоніі.

У памяці найстарэйшых жыхароў Міхалова застаўся не толькі вялікай прыгажосці палац з паркавым комплексам, але, перадусім, стаўленне баранесы Вольгі да звычайных людзей.

Багатая жанчына апраналася вельмі скромна, а прытым элегантна. Такімі ж былі і яе паводзіны. Клапацілася пра ўсіх патрабуючых дапамогі. Карміла дзяцей з міхалоўскіх школ і садзікаў, дбала аб прытулкі. Асабіста каштавала падаваныя там стравы, а на святы не забывалася пра спецыяльныя ласункі. Нікому не адмовіла ў патрэбе. Хрысціла бедных дзяцей, падвозіла карэтай выпадкова напатканых прахожых. Нават ксяндза забірала на абед пасля кожнай нядзельнай імшы.

Шмат пытанняў кіравалі да гасцей прысутныя на сустрэчы міхалавяне. Многія заставаліся без адказаў. Аказалася, што ўнукі баранесы ніколі не займаліся сваёй радаслоўнай. У саракавых і пяцідзесятых гадах мінулага стагоддзя выдаваць сваё арыстакратычнае паходжанне было надта рызыкоўным, неспрыяльным для навуковай ці працоўнай кар'еры. Тут, у Міхалове, пачалася быццам новая эпоха іх спрадвечнага роду. Мабыць, выкліканы прысутнымі добры дух Яснай Панны, бо так баранесу Вольгу звалі ў народзе, спрычыніўся да аднаўлення сямейных кантактаў і гордасці са слаўнага мінулага.

Загаловак «Ясная Панна» меў і фільмавы дакумент аўтарства Тамаша Вісьнеўскага. Кадры з запісам успамінаў нашчадкаў баранесы, а таксама найстарэйшых жыхароў Міхалова і наваколля сталі выдатным дапаўненнем сантыментальнай сустрэчы. Цікавым дадаткам была таксама выстаўка архіўных фотаздымкаў пад загалоўкам «Палац у Геранімове і яго колішнія ўладальнікі».

«Гэта надта ўзнёслая ініцыятыва дзяліцца сваімі ўражаннямі, — кажа аматарка гісторыі Міхалова, адна з гераінь зганадага фільма Ніна Горбач. — Мы сёння ўспаміналі людзей, якія шмат чаго зрабілі для нашага гарадка і яго жыхароў. Яны з'яўляюцца аўтарытэтам з якога мы, сёння тут пражывючыя, павінны браць прыклад. Ажыло нашае дзяцінства, усё ўспомнілася. Я толькі здзіўлена, што не было тут прадстаўніка па лініі сына баранесы, Яўгена, з якім мы былі найбольш знаёмыя. Менавіта ён пажыццёва звязаўся са сваёй маці. Усё гэта нашая гісторыя. Мала хто помніць ці ведае яе, тым больш, што вялікая колькасць жыхароў Міхалова гэта ўжо прыезджыя».

«Мушу сказаць, — выказывае сваю думку ініцыятар мерапрыемства Тамаш Вісьнеўскі, — што я здзіўлены тым, што вялікая колькасць жыхароў Міхалова замест прыйсці на сустрэчу, сядзіць у хатах перад тэлевізарам. Калі ідзе пра Рамаў, думаю, што тут мая місія спыняецца. Яны самі возьмуць справу ў свае рукі. Думаю, што наладзяцца трывалыя, сямейныя кантакты. Усё ідзе ў добрым напрамку, так гэта павінна быць. Мы проста вярнулі Рамаў для Міхалова і Геранімова».

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**


Ніна Горбач


Арганізатар сустрэчы Тамаш Вісьнеўскі



# Апошняе вяртанне **Міхала Федароўскага** ў Варшаву

**Беларускаму і польскаму фальклярысту, этнографу, археолагу, краязнаўцу і калекцыянеру Міхалу Федароўскаму (1853-1923) належыць адно з самых пачэсных месц сярод працаўнікоў на ніве беларускай этнаграфіі і фальклярыстыкі, сярод даследчыкаў, якія паклалі тытанічную працу над выяўленнем мастацкіх здабыткаў беларускага народа і тым самым прычыніліся да паўнейшага раскрыцця духоўнага вобліку беларускага народа перад усім светам. Так пра Міхала Федароўскага сказаў даследчык яго творчасці, кандыдат філалагічных навук Янка Саламевіч. Шматтомная праца „Люд беларускі” Міхала Федароўскага — гэта сапраўдная скарбніца духоўнай творчасці народа, у якой сабраны і апублікаваны тысячы песень і казак, вераванняў і забабонаў, прыказак і загадак, паданняў, легенд, анекдотаў, прыпевак, што стварала творчая фантазія нашых бацькоў, дзядоў і прадзедаў. Таму нездарма вялікі беларускі паэт Уладзімір Дубоўка назваў Федароўскага збіральнікам жэмчуга.**



Міхал Федароўскі. Фота друкуецца ўпершыню

Жыццё і дзейнасць збіральніка жэмчуга непарыўна былі звязаны з Варшавай і з беларусамі, якія там жылі на пачатку XX стагоддзя. Варшава з'яўляецца радзімай Міхала Федароўскага, дзе ён нарадзіўся 1 верасня 1853 года. Бацька яго Адольф па нацыянальнасці быў кашубам, прымаў актыўны ўдзел у паўстанні 1863-1864 гадоў, пасля якога эміграваў у Францыю і хутка пакінуў сям'ю. А ў 1870 годзе падчас французска-прускай вайны загінуў у бітве пад Арлеанам. Маці Элеанора сына выхоўвала адна, праўда, дапамагалі і яе бацькі. Калі Міхал падрос, скончыў чацвёрты клас мужчынскай прагімназіі з рускай мовай навучання ў Варшаве. Тады і зацікавіўся юнак фальклорам, у прыватнасці прыказкамі і фразеалагізмамі, запісваў іх ад варшавян. У 1873-1874 гадах быў вольным слухачом Пятроўска-Разумоўскай акадэміі пад Масквой.

У 1877 годзе Міхал Федароўскі выехаў у Заходнюю Беларусь. На працягу 17 гадоў ад Беласточчыны да Случчыны ён паглыблена даследаваў духоўную і матэрыяльную культуру беларускага народа, збіраў этнаграфічныя матэрыялы, экспанаты, кнігі, гістарычныя дакументы, творы жывапісу і графікі, раскопваў курганы, старажытныя паселішчы, могільнікі, накопліваў матэрыял да археалагічнай карты дагістарычнай Беларусі і г.д. Сабраў больш за 5 тысяч беларускіх песень каляндарнага і сямейна-абрадавага цыклаў, запісаў больш за 10 тысяч прыказак, больш за пяцьсот загадак, сотні чарадзейных, сацыяльна-бытавых, сатырычных і іншых казак, легенд, паданняў, анекдотаў, жартаў, гумарэсак, народных паверʼяў, забабонаў, прымхаў, парад па народнай медыцыне і г.д. Шмат этнаграфічных запісаў, археалагічных экспанатаў дасылаў Зыгмунту Глогеру ў яго маёнтак Яжэва на Беласточчыне, дарыў навуковым установам.

У 1904 годзе Міхал Федароўскі назаўсёды вяртаецца ў Варшаву. 10 траўня 1904 года „Gazeta Polska” (№ 129) паведамляла, што ў Варшаву пераехаў вядомы этнограф і археолаг, аўтар вялікай працы пад назвай „Люд беларускі” Міхал Федароўскі. Збіральнік прывёз з сабой багатыя калекцыі археалагічных экспанатаў, сабраных на Беларусі, некалькі тысяч навуковых кніг пераважна з XVIII-XIX стагоддзяў, больш за 5 тысяч гравюр, велізарнейшую колькасць гістарычных дакументаў і прыватных пісем XVII і XVIII стагоддзяў з архіваў Пацаў, Пацеяў, Храптовічаў, Сапегаў, сабраных ім на застрэшшах і ў куфрах шляхецкіх двароў, фальваркаў і засценкаў.

Пераехаўшы ў Варшаву, Міхал Федароўскі пачаў апрацоўваць сабраныя на Беларусі прыказкі. Потым заняўся класіфікацыяй, апрацоўкай і падрыхтоўкай да друку вялікага збору беларускіх народных песень. Але ўсё гэта яму зрабіць было няпроста, таму ў Варшаве ён шукаў памочнікаў.

Першай памочніцай Міхала Федароўскага ў апрацоўцы беларускага фальклору ў Варшаве была Лідзія Падул. Дзяўчына з Лідскага павета вучылася ў Варшаўскай кансерваторыі. Па словах Янкі Саламевіча, даследчыка творчасці Федароўскага, Лідзія Падул нават запісала 7 песень для Федароўскага ў Лідскім павеце. Дзяўчына шмат дапамагала фальклярысту, нават пэўны час жыла ў яго на кватэры. Але больш звестак пра Лідзію Падул адшукаць не ўдалося. Магчыма, пасля заканчэння кансерваторыі, яна пакінула Варшаву.

Вельмі часта ў Міхала Федароўскага бываў Рамуальд Зямкевіч — беларускі бібліяфіл, бібліёграф, публіцыст, гісторык і калекцыянер, які жыў у Варшаве. Ён пазнаёміўся з Федароўскім у 1905 годзе. Рамуальда Зямкевіча найперш цікавілі антыкварныя калекцыі Федароўскага. Вядома, ён шмат дапамагаў у апісанні і класіфікацыі сабранага ім матэрыялу, нешта купляў у Федароўскага, нешта абменьваў і нават мог украсці. Гэта была яго хвароба, як згадваў Сяргей Хмара („Слонімскі край”, 2000, № 1, с. 39). У 1931-1935 гадах Рамуальд Зямкевіч вёў карэктуру чацвёртага тома працы „Люд беларускі”.

Часта ў доме Міхала Федароўскага заседжваўся беларускі паэт Гальяш Леўчык, які тады жыў у Варшаве. Яму, як нікому іншаму, найбольш давяраў пан Федароўскі. Гальяш Леўчык шмат дапамагаў яму шчыра і аддана. Многа кніг са сваёй сабранай бібліятэкі Міхал Федароўскі проста падараваў Гальяшу Леўчыку. І калі хто з беларусаў бываў тады ў Гальяша ў маленькай кватэрцы ў Варшаве на вуліцы Леапальдыны, 35, кв. 32, то бачыў сярод шматлікіх кніг і тры тамы „Люду беларускага” з аўтографамі Федароўскага, падараваныя Гальяшу Леўчыку.

Жывучы стала ў Варшаве, Міхал Федароўскі па-ранейшаму не забывае пра Беларусь. Ён працягвае і ў Варшаве збіраць беларускія матэрыялы, просіць знаёмых дасылаць яму ўсё беларускае. Напрыклад, у лісце да Цэцыліі Снягоцкай у Львоў у 1908 годзе Федароўскі просіць дасылаць яму кніжачкі, якія тычацца Русі Літоўскай (Янка Саламевіч, „Міхал Федароўскі”, Мінск 1972, с. 354).

З Варшавы Міхал Федароўскі вядзе вялікую перапіску з супрацоўнікамі „Нашай нівы”, „Biełarusa”, прыватнымі асобамі. І пастаянна працуе над „Людам беларускім”. Але жыць у Варшаве з матэрыяльнага боку Міхалу Федароўскаму было вельмі цяжка. Таму, каб знайсці сродкі для існавання, ён прадаваў свае калекцыі варшаўскім бібліяфілам, гандлярам старажытнасцей, тым, хто цікавіўся антыкварам, быў пасрэднікам у некаторых гандлёвых здзелках. Многія рэчы ён прадаваў вельмі танна, а таксама ахвяраваў музеям, архівам і бібліятэкам Польшчы.

У пачатку 1920-х гадах ён стаў хварэць. А 10 чэрвеня 1923 года Міхала Федароўскага не стала. Яго пахавалі на Павонзкаўскіх могілках у Варшаве. На надмагільнай пліце сябры Варшаўскага навуковага таварыства напісалі: «Міхал Федароўскі, этнограф, аўтар „Люду беларускага”. 1853-1923».

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## Вечар паэзіі ў Міхнаўцы

Вучні лясных школ з Белавежы і Гайнаўкі прыехалі вечарам 21 кастрычніка г.г. у прыгожую святліцу ў Міхнаўцы (Нараўчанская гміна) на аўтарскую сустрэчу Тадэвуша Кунцэвіча з Лешукоў, Веры Радзіванюк з Міхнаўкі і Канстанціна Целушэцкага з Новага Ляўкова. Дагэтуль пра тое, што яны пішуць вершы, мала хто ведаў. Іх выявілі дырэктар Гміннага асяродка культуры ў Нараўцы Галена Рэент і старшыня Таварыства „Ятрышнік” у Лешуках Альжбета Кунцэвіч.



Фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА

Першым выступіў Тадэвуш Кунцэвіч *(справа)*, аўтар зборнічка вершаў „Падляшша — мая старонка”, выдадзенага Таварыствам „Ятрышнік”. Паэт прачытаў дзесяць сваіх лепшых твораў, пераважна сатырычнага характару. Ён ахвотна піша вершы і на заказ.

Вера Радзіванюк *(у цэнтры)* свае вершы ведае на памяць. І яна іх беспамылковаа дэкламавала. Вершы яна запісвае ў двух сшытках, але вось у мінулым тыдні прыехала да яе рэдактар „Нівы” Міра Лукша і ўзяла іх з сабою. Спадарыні Веры прыйшлося чытаць па памяці і вельмі добра атрымалася. Была гэта яе другая сустрэча са слухачамі.

Канстанцін Целушэцкі *(злева)* прачытаў верш прысвечаны Таварыству „Ятрышнік” (вось умее паддабрыцца), а затым пра жніво, жорны, пра бярозку і дуб ды пра стараляўкоўскі керамічны завод (ён у ім працаваў шмат гадоў). У яго выступленні было шмат лірычных вершаў.

У такім складзе паэты выступілі другі раз. Упершыню такая сустрэча адбылася 1 лютага г.г. у святліцы ў Старым Ляўкове (тады на яе прыехалі тэле- і радыёжурналісты). Зараз яны ўдзельнічаюць у XVI Агульнапольскім конкурсе беларускай паэзіі і прозы, які арганізуе рэдакцыя „Нівы” і Беларускі саюз у РП.

Варта дадаць, што ўдзельнікаў вечара паэзіі арганізатаркі спадарыні Галена і Альжбета пачаставалі салодкім пірожным (у міжчасе спяклі яго на месцы ў печы ў святліцы) і кампотам. Вучні пазнаёміліся з дзейнасцю „Ятрышніка”, глядзелі кінафільм, між іншым, пра жніво ў Новым Ляўкове ў 2012 годзе. Яны шчыра падзякавалі за цёплы і сардэчны прыём.

**(яц)**

## Быццам гарохам аб сценку

У 27 нумары „Нівы” ад 7 ліпеня 2013 г. друкаваўся допіс „Ці ўладам патрэбны фактар?...”. Справа тычылася шлюза на скрыжаванні вуліц Вонскатаровай і Вішнёвай у Чаромсе. Справай пацікавіў я намесніка войта Ірынея Леанюка. Суразмоўца заявіў, што гэта ў кампетэнцыі Павятовага праўлення дарог у Гайнаўцы. У маёй прысутнасці намеснік войта правёў размову з кіраўніком Крыстынай Мішчук, натабена, жыхаркай Чаромхі, якая паабяцала пацікавіцца сравай едучы на рыбалку над Рэпчыцкі вадаём. Ніхто пальцам не варухнуў. Кончыўся летні сезон, затым адпачынак над вадасховішчам. Спадарыня кіраўнік або забылася пра абяцанку, або рашыла, што не бачыць праблемы. Да вясны шмат часу — паводкі не будзе. Затым няма патрэбы займацца шлюзам...

У мяне іншая думка. Шлюз і абязводжваючы роў знаходзяцца пры асфальтавай дарозе і не забяспечаны дарожнымі стоўбікам. У зімовы час роў засыпаецца снегам. За мосцікам, едучы з Кузавы, знаходзіцца круты паварот каля сядзібы Масальскіх. У час галалёдзіцы не цяжка апынуцца ў заснежанай канаве. Дарожная аварыя непазбежная. Паламаць можна не толькі аўтамабіль, але і шыю скруціць. Каго тады будзем вінаваціць?..

**(ус)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Жывы ўрок замест прагулаў!

Часта, калі еду на працу, разам са мной у аўтобусе падарожнічае мора гімназістаў. Усе размаўляюць пра школу. Пра кантрольныя, ад якіх немагчыма злавіць перадышку, бо ж яны на першым і апошнім месцы. Але бываюць дні, калі ў маладзёвай кампаніі, замест стрэсаў і засяроджанасці, адчуваецца спантанная радасць. Няцяжка здагадацца, што вясёлыя каментары датычаць вандровак. Моладзь, як ніхто, цэніць сяброўства. А яно вельмі мацуецца ў час школьных вандровак, адукацыйных паездак, класавых экскурсій. Ужо сама магчымасць сустрэцца недзе па-за школьнай партай явіцца як шчасце.

Слова „шчасце" часта выступае ў допісах Наталлі Васько з Нараўкі. І гэта ўсё праўдзіва, шчыра. Яе справаздача з лясной вандроўкі па Белавежскай пушчы проста насычана добрымі эмоцыямі і энергіяй. Калі чытаеш пра такі жывы ўрок геаграфіі, звычайна хочаш кінуць усё і апынуцца на месцы гімназістаў.



Беларускі ўрок у Адукацыйным асяродку ў Грушках

Іншая справа, што пра адукацыйны асяродак у Грушках мы думаем з найбольшай сімпатыяй. Дзякуючы дапамозе дырэктар Нараўчанскай школы спадарыні Ліліі Тарасевіч, разам з сябрамі Сустрэч „Зоркі" наша рэдакцыя мела магчымасць пазнаёміцца з атмасферай і цікавінкамі Адукацыйнага асяродка ў Грушках. На месцы нас чакалі кампетэнтныя леснікі: спадары Яраслаў Стоцкі і Юры Панькоўскі. Яны прадставілі нам мультымедыйную прэзентацыю ды завялі ў лес. Асаблівасць гэтай сустрэчы заключалася і ў тым, што расповед пра лясны свет атрымаўся на мове жыхароў Нараўчанскай гміны. Пры нагодзе мы падвучыліся беларускай мове — хто сёння памятае нашы назвы дрэў, раслін, звяроў! Ды гэта не канец сюрпрызаў. Усе ўдзельнікі атрымалі падарункі: запісныя кніжкі, даўгапісы, смычкі з лагатыпам Асяродка адукацыі. Апошні ўспамін прыводзім невыпадкова. Мы хочам натхніць нашых настаўнікаў і вучняў, каб яны таксама ў сваіх школьных паездках узялі пад развагу візіт у Грушках. Гэта самае прыгожае і цікавае месца на Падляшшы!

ЗОРКА



Гімназісты з Гарадка ў рэдакцыі „Нівы"

# Жывы ўрок геаграфіі

Гэты ўрок геаграфіі запамятаецца нам надоўга. Ён быў настолькі іншы і арыгінальны, што хочацца пра яго думаць.

Вось, 25 кастрычніка г.г., вучні другога класа гімназіі ў Нараўцы, разам з выхавацелькай Івонай Багдановіч, рашылі правесці ўрок геаграфіі ў Надлясніцтве Броўск, у Грушках.

Кожны з нас дастаў у рукі карту Белавежскай пушчы. Нашай задачай было знайсці паасобныя месцы ў час вандроўкі па лесе. Мы даведаліся як вызначыць месцазнаходжанне і як знайсці патрэбныя кропкі на карце. Мы даведаліся, што існуе многа спосабаў, каб вызначыць напрамак. Напрыклад, кірункі свету можна вызначыць па лішайніках на дрэвах.

Калі мы дайшлі да нашай мэты, там чакала ўжо вогнішча. Пасля доўгай вандроўкі мы спяклі каўбаскі і сталі адпачываць. Ля вогнішча ўсім было файна і прыемна. Кожны хацеў сказаць нешта цікавае ад сябе...

Потым мы вярнуліся ў школу. На гэтым закончылася наша вандроўка і жывы ўрок геаграфіі. Хоць мы стаміліся дарогай, усе былі шчаслівыя. Нам хочацца больш такіх урокаў і супольных хвілін, праведзеных з карысцю для нашых ведаў, прытым у прыгожым месцы.

**Наталля Васько,**
*другі клас гімназіі ў Нараўцы*

## Увага, конкурс!!!

**Загадкі з роднай хаткі (№ 46-13)**

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 24 лістапада, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

***1.***
***Маленькія лапкі,***
***на лапках драпкі,***
***ціхенька ступае,***
***мышак пужае.***
***(к..)***

***2.***
***Белая, як снег,***
***цэлы дзень***
***у рэчцы купаецца,***
***а як на бераг выйдзе — сухая.***
***(г...)***

***3.***
***Без гадзінніка жыве,***
***а ў пару заўжды ўстае,***
***галасіста ён спявае —***
***нас прачнуцца заклікае.***
***(п.....)***

## Вершы Віктара Шведа

### Сярэдняе вуха

— Дарагая матуля, паслухай,
Што сказаў аба мне лекар?
— Запаленне сярэдняга вуха
Маеш ты, трэба браць хутка лекі.

— У мяне толькі два вуха, мама,
Аб сярэднім не чуў я ніколі.
Часам лекар забудзе таксама
Аб сваёй лячэбнае ролі.

### Ці гэта праўда?

Сынок маму будзіць
І дзіўна пытае:
— Ці праўда, што людзі
З зямлі вырастаюць?

— Ты хіба жартуеш?
— Чуў размову-табу:
Дзе выкапаў такую
Сварлівую бабу.



Сустрэча сяброў „Зоркі” ў Нараўчанскай школе

# Дзень настаўніка ў Нараўцы

У нашай школе здзадзілі прыгожае свята — свята тых, хто нас вучыць. Яно адбылося 11 кастрычніка 2013 г. Ад рання вучні дарылі кветкі настаўнікам, віталі іх са святам і выказвалі добрыя пажаданні. Пад канец урокаў адбылася ўрачыстасць, падрыхтаваная вучнямі ІІ класа гімназіі, з выдатнай дапамогай спадарынь Івоны Багдановіч і Анэты Снарскай. Вучні прадставілі кароткую, смешную сцэнку і заспявалі *настраёвыя* песні. Настаўнікам і запрошаным гасцям, відаць, гэта падабалася. На іх тварах мы бачылі радасныя ўсмешкі. У час свята спадарыня дырэктар уручыла настаўнікам узнагароды за дасягненні ў працы з вучнямі. Агульныя віншаванні і пажаданні для ўсіх настаўнікаў перакзаў таксама вучнёўскі калектыў.

Дзень настаўніка запамятаўся як прыгожы дзень. Усе былі шчаслівыя і радасныя.

**Наталля Васько**, *другі клас гімназіі ў Нараўцы*



Наталля Васько з Адамам Сцепанюком і Міхасём Бабікам

## Настаўнікам

*Вы заўсёды разам з намі,*
*Вы заўсёды гатовы нам дапамагчы.*
*Для нас — вы цэлы свет.*
*Як добрая сям’я*
*Вы кажаце добрыя словы,*
*Адкрываеце свет,*
*Выпраўляеце ў людзі.*
*Мы ведаем, што можам лічыць на вашу падтрымку.*
*Сёння хочам Вам пажадаць:*
*Каб заўсёды былі ў вас добрыя вучні,*
*Каб не пакідалі вас шчасце і сіла, і натхненне,*
*Каб добрыя словы мы гаварылі*
*Не толькі з нагоды свята Настаўніка*
*І каб Вы ведалі:*
*— Мы верым Вам!*

**Наталля Васько,**
*другі клас гімназіі ў Нараўцы*

*Святлана Іванаўна*

## Калыханка

**Жыццё — па раскладу:**
**Дзень заплюшчыў вочы**
**І аддаў уладу**
**Ціхай, змрочнай ночы.**

**Дзеткі ўсе паснулі,**
**Спіць маленькі коцік,**
**Да сваёй матулі**
**Прытуліў жывоцік.**

**Спіць сабака Шарык,**
**Пеўнік моцна спіць,**
**І начны ліхтарык**
**Ужо не мігаціць.**

**Спі і ты дачушка,**
**Спі, маё дзіцятка.**
**Прыйдзе ранак хутка**
**З ім — сяброўка Натка.**

# Як зрабілася балота каля Кленік

*(легенды Падляшша)*

На Падляшшы ад вякоў цанілі авечае руно. Гэтую сыравіну скарыстоўвалі ў народнай медыцыне, плацілі ёю за паслугі і прадукты, рабілі з яе адзенне і посцілкі. Пра моц авечага руна існуе чарадзейная легенда. Яна апавядае пра паходжанне балот каля вёскі Кленікі...

Даўно-даўно, у часы прыгону, каля Кленік стаяў вялікі двор. Тут жа цякла невялікая рэчка, у якой плавалі рыбы і вадзіліся ракі. У панскім двары была дачка-прыгажуня. Яна любіла выседжваць над берагам рэчкі і ўзірацца ў чыстую як люстэрка ваду. Прыгажуня захаплялася сваёй прыгожасцю і непаўторнасцю. Яна ўздыхала сама да сябе і паўтарала:

— Дзе яшчэ на свеце такая прыгожасць як я?!

Аднойчы паненка так заглядзелася на сябе, што нават не пачула як упала ў раку і ўтапілася. На другі дзень мясцовыя сяляне вылавілі яе цела з рэчкі. У двары ўспыхнулі лямант, плач і чорная роспач. Маці дачкі не магла дараваць рэчцы. Яна ў злосці зачаравала яе. Кінула ў ваду авечае руно, прыгаварваючы:

— Згінь рэчка! Не будзе цябе столькі гадоў, колькі ёсць валасоў воўны на авечым руне.

І так сталася... Рэчка вокамгненна прапала, а на яе месцы зрабілася непраходнае балота, дрыгва, парослая лазой. Праўда, дзікая багна не раз прыслужылася мясцовым людзям. Тут скрываліся хлопцы, каб схавацца перад „рэкрутамі”. Гэтак гаварылі ў нас пра службу ў царскай арміі, якая доўжылася аж 25 гадоў! У армію пасылалі хлапцоў з бедных сем’яў, у якіх не было як выкупіцца ад вярбоўкі. Часта бралі ў рэкруты за нейкую кару.

Магчыма, што клятва дваранкі ўжо перастала дзейнічаць, бо сёння на месцы дзікай багны распасціраюцца шаўковыя лугі, якія служаць земляробам.

**ЗОРКА**

## Польска-беларуская крыжаванка № 46

Запоўніце клеткі беларускімі словамі паводле значэнняў. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 42:**

Вока, міна, фінал, фігура, ламачча, хмарка. Фільм, кніга, нумар, мара, сілачка, паўната.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Міхал Сахарчук, Вольга Федарук, Агата Усціновіч, Габрыеля Торка, Якуб Сіроцкі** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, **Магда Бяляўская, Крыстына Леўша** з Нараўкі, **Наталля Нікaнюк** з Арэшкава, **Кацярына Лаўрашук, Ніколя Вярцінская** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Most | | Dotyk | | | | | |
| | | | Sfera | Twoja / Wiek | | Kokos | |
| Bór | | Kuzyn | | | | | |
| | | Czaro-dziejka | | | | | |
| Zbiór | Lek | | | | As | | |
| | | | | | | Bierz | |
| | Broda | | | | | | |

# Занятак навейвае думкі

Канстанцін ЯРАШУК

## Родны куток

Дзе рэчка Нарва праплывае,
А Нараўка воды мчыць свае,
Родным кутком я называю,
Бо тут пачалось быццё мае.

Вось у вілах гэтых знаёмыя вёскі:
І Ляўкова, і Лешукі.
На родным слове, па-бацькоўскі
Гаварылі нашыя бацькі.

Вось і Нараўка непадалёку
Ля рэчкі Нараўкі ляжыць.
А Пушча дываном шырокім
Адвечным шумам гаманіць.

Дый прыцягае сваім чарам
Турыстаў многа да сябе,
Толькі мчацца аўтакары
Ў даль па гайнаўскай шасе.

За Семяноўкай Нарва вадою
Усе балоты заліла,
Укрунулась за Лукою,
У Бандары ўжо паплыла.

І так ціхенька прамчалась
Праз балоты ды паля.
За Слабодкай аказалась,
Далей у Сушчу паплыла.

Вось зямлю гэтую я называю
Роднай бацькаўскай зямлёй
І аддаў бы ўсё што маю,
Каб не расстацца мне з табой.

Хаця зямля і тут слабая:
Кругом лясы ды ёсць пясок,
Но на нішто не замяняю
Я бацькоўскі родны куток.

Бо вельмі цяжка пакідаці
Сінія далі, хмызнякі,
Дзе нарадзіла мяне маці
І дзе выхавалі бацькі.

І вось нідзе не аддаляюсь,
Заўжды я ў Новінах пражываў.
Я родну мову паважаю
І так бы пра яе сказаў:

Цвяці, красуйся родная мова,
Белавежская пушча, нівы і палі,
Каб навекі нашае слова
Было чутное на зямлі.

І вось няма чаго саромецца,
Сваю родную мову таіць.
Нам польская ўлада не бароніць
На родным слове гаварыць.

І ўсе мы прасцяцкія людзі
Ад душы клятву кладзем:
З родным словам нарадзілісь,
З родным словам і памрэм.

Будзем разам працаваці
З польскім народам як браты,
Будзем Польшчу будаваці,
Будзем ставіці хаты.

Каб цвіла і красавалась
Як яркі півоні цвет
І наступных дачакалась
Тысячы у шчасці лет.

А вам я сёння ўсім жадаю
Каб у згодзе, шчасці жылі,



**Канстанцін Ярашук** нарадзіўся ў 1939 годзе ў невялікай вёсцы Новіны, што зараз прыхавалася ў Нараўчанскай гміне — у грыбным лесе, што расцягнуўся на колішніх палях паміж Ляўковам і Тарнопалем. Даведаўся я ў сакрэтным парадку, што складае ён вершы. Толькі, падказаў мне мой інфарматар, ён іх не запісвае, але захоўвае ў памяці. Самыя славутыя старажытнагрэчаскія творы Гамера, „Іліяда” і „Адысея”, таксама былі складзены перад пачаткамі пісьменнасці і перадаваліся па памяці пакаленняў. . .

Пытаю я спадара Канстанціна, як пачыналася ягоная творчасць.

— Як хадзіў у трэці-чацвёрты клас, тады стаў пісаць.

— Ці запісвалі Вы тыя вершы.

— Запісваў, але пасля тое ўсё пайшло.

— Куды пайшло?

— У макулатуру, і паехала.

— І нічога з таго запісанага не асталося?

— Няма. Але ў памяці захаваў нешта.

— А калі Вы хадзілі ў школу?

— Сёмы клас скончыў у 1955 годзе. У Лешуках я вучыўся з другога класа, а ў першы клас хадзіў у Новым Корніне.

— А чаму ў Новым Корніне?

— Бо адтуль была родам мая маці і туды мы з'ехалі перад канцом вайны з Беластока. Але спярша высялілі нас з Новін у Міхнаўку, каб не заходзілі да нас партызаны, а пасля ў Беласток. З Беластока то тата не хацеў нават выязджаць, але калі сталі набліжацца саветы, то дзед, мамін тата, прыехаў да нас і кажа: „Тут жа ежы няма, нічога няма. Перааязджайце да мяне, а пасля будзе відаць”. Пабылі там, у дзеда, мо з паўтара года. Але дзедава хата была невялікая, да таго ж там жыла сям'я мамінага брата, у якога былі тры дачушкі, цесна было. Тата стаў там на працу сторажам у школе і мы сталі жыць у школьнай кухні. Там пражылі бадай два гады і давай ехаць сюды, у Новіны.

— Але тут вашы будынкі асталіся?

— Нічога не асталося. Нават кругі з калодзежа нехта забраў; мабыць самагоншчыкам былі яны спатрэбіліся.

— Немцы спалілі вашы будынкі ў Новінах, ці ўдалося вам іх перавезці?

— Частку будынкаў наша сям'я перавезла ў Міхнаўку. Там мы жылі бадай каля года, а пасля немцы сталі падазраваць, што мы кормім партызанаў... Помню як сёння — прыйшлі партызаны. Маці акурат масла збіла, а тут чуем — гупцяць у акно. Выглянула, а там людзі ў пелерынах. Яна міску з дзвюма галушкамі масла сунула пад лаву і мяне з братам на ёй пасадзіла. Мы селі, закрылі тое масла нагамі і сядзімо. Увайшлі: „Хазяйка, што-нібудзь пакушаць. Мы не хочам тут кушаць, але каб нам даць”. „Мы бедныя, — кажа маці, — нічога не маем”. А яны ўжо раней тое масла звочылі і кажуць: „Мы відзелі ў вас слоўкі і масельцо”. А мама — не. А другі кажа: „У ніх слаба, пусць мальчыкам астанёцца”. Але папрасілі хлеба. Але хто іх ведае, хто яны, можа гэта немцы: „Хочаце, то бярыце”. Разрэзалі яны булку хлеба: „Пусць будзет вам і нам”.

— А ў Міхнаўцы, калі вас высялілі, вы будынкі паставілі ці яны ляжалі?

— Нешта паставілі, дакладна гэтага не помню. Але з Міхнаўкі запамятаў дакладна, як Уладзіміра Харкевіча немцы лавілі — я гэта ўвачавідкі бачыў як ён уцякаў і як па ім стралялі. Мы жылі побач ягонай хаты...

— Яна крайняя ад Новін...

— У клуні тата змалаціў цэпам гарох і перавейваў. А мы, хлапчукі, былі разам з татам, той гарох крышку пад'ядалі. Прыехалі немцы да Харкевіча рабіць рэвізію. Павыкідалі падушкі, усё павыкідалі. А ў яго была чародка дзяцей. І стаяць яны, і немец узброены стаіць, і паліцыянт, наш, з Нараўкі. А той Валодзя паражагнаўся, пацалаваў сваіх дзетак і стаіць. І раптам рвануў з хаты ў напрамку Царамкоў. Той немец страляў так, абы страляць. А той наш то прыкладаўся, раніў Харкевіча ў руку, але той усё ж такі ўцёк. І немцы ў доўгіх шынялях і з аўтаматамі кінуліся за ім. Мне здавалася, што яны бягуць з сярпамі — так мне падаліся аўтаматы з набойнікамі — а тата кажа мне: „Сынок, гэта не сярпы, гэта аўтаматы”. І нейкія чатыры тыдні пасля таго і нам загадалі выбірацца ў Беласток.

— А дзе вы ў Беластоку жылі?

— Далі нам кватэру. Спачатку то добра нам было, далі нам добрую хату. Але яна стаяла ў такім ціхім, захіленым месцы і немцам тое месца спадабалася і загадалі нам перасяліцца ў іншую, горшую хату.

— А пад канец вайны вы выехалі з Беластока?

— Вёз нас немец, і то палкоўнік! Як да гэтага дайшло? Мая хросная маці была таксама з Новін, Уладзіка Немцуновіча дачка; іх таксама высялілі. Яна ў Беластоку пазнаёмілася з перагаворшчыцай, якая перакладала размовы ў немцаў. Калі бацька стаў думаць пра выезд з Беластока, тады яна, мая хросная, запрапанавала дапамогу: „Я папрашу сяброўку, каб немец вам дапамог”; хто ведае — можа тая перагаворшчыца была з тым палкоўнікам неяк больш цесна звязана... Дамовіліся пра месца і час, дзе і калі будзе чакаць нас машына; спярша мелі ехаць тата, брат і я, а мама з маленькай дачушкай, што ўжо ў Беластоку нарадзілася, мела з'ехаць пасля — меў па яе прыехаць яе брат з Новага Корніна. Апрача палкоўніка ехалі з намі таксама два нямецкія салдаты з аўтаматамі на каленях: адзін разглядаўся наперад, а другі — назад. Выехалі за Заблудаў, пабачылі кусты: ужо па нашым праваднiку пот цячэ... Далей ужо яны не паехалі, баяліся партызанаў. А мы ў Новы Корнін дабіраліся пехатою. Два разы добрыя людзі падвезлі нас фурманкамі. Пасля дзядзька паехаў па маму з дачушкай; забралі тады і скрыню з усімі нашымі рэчамі...

У Беластоку мы жылі побач гета і як мы, дзеці, гулялі, то брат знайшоў схаваную ў зямлю скрыначку з сярэбраным самаварам і залатым ланцужком. І калі вось мама з дзядзькам недзе начавалі вяртаючыся з Беластока, то ноччу нехта тую скрыню апаражніў з братавай знаходкі...

— А калі вярнуліся ў Новіны, то забралі свае будынкі з Міхнаўкі?

— А дзе там! Нічога не асталося.

— Цяпер вернемся да вершаў: як яны ў Вас пачаліся?

— Хадзіў я ў школу. Выпісвалі газеты — „Świerszczyk” і іншыя; там былі вершы для дзяцей...

— А Вы спачатку як пісалі: па-свойму ці па-польску?

— Я так і так пісаў. Некаторыя вершы напісаў як сядзеў на „Цэраміцы” ў дзяжурцы.

— То Вы на „Цэраміцы” працавалі?

— Дзе я не рабіў — кругом работаў: у нафтабазе каля Заблотчыны стражакам, амаль дзесяць гадоў. Рабіў на чыгунцы. Рабіў у „кулку” ў Новым Ляўкове за стоража, у лесе папацягнуў пілою, кругом. А калі чалавек працуе ў нейкім асяроддзі, то зараз яму думкі находзяць. А без занятку то чалавек нічога не знае, не думае.

— А зямлю якуюсь Вы абраблялі?

— Па бацьку, а пасля апісаў на сям'ю.

— Бачу, што Вы займаецеся таксама пчолкамі. Як гэта сталася, што Вы сталі пчаляром?

— Мая прыгода з пчоламі пачалася яшчэ ў Новым Корніне, такое ў мяне з'явілася замілаванне. У дзеда дзеці гулялі то лялькамі, то возікам, а мяне гэта не цікавіла — я ўсё ў паходзе быў. Наступлю дзе на пчалу — тады ж басаног хадзілі — як пчала мяне ўпячэ, то я плачу-крычу, а бацька мяне па срацы: „Чаму не гуляеш як усе дзеці, адлюдак якісь! Заўсёды кудысь улезеш і равеш”. А дзед заступаўся за мною: „Ты, Іван, не бі яго, з яго будзе пчалавод”. А як у Новіны пераехалі, то я чмялёў назіраў, за іхнімі гнёздамі ў моху, абяззброіваў іх, накрываў іхнія соты і пераносіў. Я пазнаў прынцыпы іх паводзін.

— Але Вы ад кагось падвучваліся пчалярству?

— Калі я закончыў сем класаў, то трэба было некуды далей ісці. Хаця цяжка было, але бацька стараўся, каб далей нас вучыць. Акурат у газеце „Gromada” была аб'ява, што ў Гданьську-Вжэшчу арганізуецца школа, пчалярскі тэхнікум. Я паслаў туды паперы і атрымаў станоўчы адказ. Трэба было заплаціць пяцьсот злотаў. Шмат гэта было на той час, паўкаровы, але бацька адвёў мне тыя грошы, паслалі мы іх пад пададзены адрас. А праз нейкія два месяцы прыходзіць пісьмо, што тае школы не будзе. Тады бацька разлаваўся на мяне: „Ах ты, такі-сякі, бачыш што знайшоў!”. Паведамілі яны, што нашы грошы пераслany ў беластоцкую рамесніцкую школу, дзе будуць завочныя курсы. І я гэтыя курсы ў Беластоку закончыў. І як я яшчэ вучыўся, то бацька мне купіў вулей з пчоламі, у Бельскага з Ахрымоў. І так пачалося.

Але нялёгкі быў той пачатак. Бацька не надта верыў у мой поспех, патрабаваў ад мяне галоўным чынам кароў пасвіць. Той вулей я наслухоўваў і чую, што спявае матка, значыць пчолы будуць раіцца. Тата загадвае мне гнаць кароў на пашу, а я кажу, што не магу, бо пчолы раіцца збіраюцца. Тата накінуўся на мяне, што я нейкімі глупствамі турбуюся. Загнаў я кароў, але ўжо ў дзевяць гадзін — бо ведаў, што пры пагодзе рой ужо з раніцы можа выляцець — прыгнаў дахаты. А бацька на мяне: „Ты жуліку, ужо прыгнаў. А ну, выганяй яшчэ раз!” — „Тату, кажу, не, бо пчолы..” Я да вулея, а там іх няма. Кажу: „Тату, рой выйшаў”. „А ты, серуне, ты там панімаеш! А ну, да кароў!” Але сусед заступіўся за мяне, сказаў бацьку, каб не гарачыўся. Ну і мы сталі разглядацца, а рой на старую грушу сеў. Я тады яшчэ не меў ніякіх пчалярскіх прыладаў. Падставіў пад грушу драбінку, ухапіў ад маці простыню, угарнуў рой у рэшата, закруціў прасцірадлам. Але ж далі тады пчолы мне, мо з пяцьдзесят штук уджалілі, выглядаў як балван. Але рой асадзіў. Тады і бацька набраў да мяне пашаны, купіў чарговы вулей. І так пайшло.

І вершы спадар Канстанцін складае на аснове навеяных думак.

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

Роднага слова не забывалі,
Роднай бацькаўскай зямлі.

І яшчэ хачу сказаці,
Далажыўшы пару слоў,
Што зямля — карэнні нашы,
Бацькоў нашых і дзядоў.

І аб гэтым людзі знайце:
Аб каранях сваіх не забывайце,
Бо прыказка гаворыць
і кожны народ пра гэта знае,
Што дрэва з падсечанымі
каранямі быстра засыхае.

## Родны куток

Сярод карчоў я нарадзіўся,
Паміж пяскоў ды хмызнякоў,
У пасёлак Новіны ўлюбіўся,
Бо тут захадзіла мая кроў.

Вось і стала мне ўсё прыгожым,
Калі сонца свеціць на пяскі —
Яны ж пыляць-пыляць на палях,
Як з камінoў ідуць дымкі.

А вецер гоніць іх бясконца
На родну вёсачку, дзе жыву.
Часамі мала відна сонца —
Так пясчаныя туманы йдуць.

Тут вецер хмаркі наганяе,
Дождждык кропіць на палі
І раптам ветры заціхаюць,
Сядаюць цёмны туманы.

А вечарочкам, цёплым ранкам
Тут песні льюцца без канца.
Нібы тысячы арганкаў
Чутна спевы салаўя.

Усё тут ёсць чаго мне трэба:
Дровы, ягады розны і грыбы.
Таму, людзі дарагія,
Не аддаляйцеся нікуды.

Тут паветра здароўем чутна,
Пахне мёдам, жывічнаю смалой.
Ох, зямелька песчаная,
Як я моцна звязаны з табой!

## Карыта

Гаварыў дзядзька Мікіта:
— Каб я дарваўся да карыта
Вось тады я і пажыў бы,
Усіх пароўну падзяліў бы.

А калі да карытка ён дарваўся,
Адразу свінкаю застаўся —
Стаў пры карыце шчыраваць,
Сам найлепшую яду выядаць.

Пра абятніцу ён забыў,
Што абяцаў і гаварыў.
Адным словам наш герой
Стаў перфідною свіннёй.

Вось завялося так у людзей:
Мы ўсе падобны да свіней.

Калі хочам каплю дастатачна жыць,
Мусім падрываць, ашукваць, свініць.

Бо адначасна так не можа быць,
Каб багатым стаць
і ўсім людзям дагадзіць.

# **Янка Запруднік**, *Беларускія фэстывалі й выстаўкі ў Нью Джэрзі. Палітычная інфармацыя моваю мастацтва (1948-2011 гг.)*

Даўно такой кнігі я не трымала ў руках! Даслала мне яе спадарыня Ліза Літаровіч з ЗША з рэкамендацыяй: „Думаю, што Вам будзе цікава пра наша жыццё тут”. Сапраўды, цікава даведацца пра жыццё беларусаў у Амерыцы. Праўда, пра яго можна прачытаць у фундаментальнай працы Вітаўта Кіпеля „Беларусы ў ЗША” (Менск 1993) і ў кнізе Леаніда Пранчака „Беларуская Амэрыка” (Менск 1993). Да таго можна пагартаць газету „Беларус”. Але я не пра тое. Кніга, па-першае, выдадзена вельмі элегантна. Прыемна яе ўзяць у рукі — прыгожая папера, каляровая, акуратненькая!




Надрукаваная яна ў ЗША тыражом 1000 экземпляраў. Даўно не бачыла беларускай кнігі ў такім накладзе. Быццам і не надта вялікі, але гэта шмат, калі большасць кніг, якія трапляюць зараз у рукі, выдаюцца колькасцю 300 ці 100 асобнікаў. Паўстала яна „на ўшанаваньне ўсіх тых, што працавалі, каб пашырыць імя Беларусі ў Амэрыцы”. Аўтар — Янка Запруднік — працаваў над ёй тры гады. Пра яе элегантны выгляд задбалі Ірэна і Мікалай Дуткі.

Друк кнігі быў магчымы дзякуючы ахвяраванням многіх амерыканскіх беларусаў, якія пералічаны ў пачатку кнігі (с. III).

Яе асаблівай прыкметай з'яўляецца двухмоўнасць — англійска-беларуская; спярша версія англійская, а затым беларуская — яны паралельныя па змесце, але не ідэнтычныя. Уводнае слова напісаў Вітаўт Кіпель, у якім выданне назваў кнігай-альбомам і піянерскай працай „зь некалькіх гледзішчаў” (с. XVI). Кніга з'яўляецца своеасаблівым дакументам культурнай дзейнасці беларусаў у Амерыцы, дакладна ў штаце Нью-Джэрзі. Выбар невыпадковы — гэта найбольш „беларускі” штат у ЗША. Як напісаў Вітаўт Кіпель, у ім у 1960-1970-я гады „дзеілі чатыры беларускія праваслаўныя прыходы” (с. XVI). Сам аўтар сваё абмежаванне да аднаго штата тлумачыць тым, што „ў гэтым штаце беларускія фэстывалі й выстаўкі адбываліся найчасьцей і ў найбольшым маштабе. Тут фэстывальная дзейнасьць праклала беларускаму імю найшырэйшую дарогу ў сродкі масавай інфармацыі й амэрыканскае грамадзтва. (...) У Нью Джэрзі актыўнасьць была найбольш інтэнсыўнай і выніковай. Пра ўсю гэтую інфармацыйную дзейнасьць сёньня ўжо можна гаварыць падсумавальна, як пра закончаны перыяд” (с. 80).

Янка Запруднік карыстаўся архіўнымі зборамі і ўспамінамі свае жонкі Надзі. Аўтар падзякаваў таксама тым, хто дапамог яму інфармацыяй, дакументамі, фотаздымкамі і парадамі (с. 1, 79). Выразна пералічыў мэты публікацыі: 1. ушанаванне памяці беларусаў, якія, прыбыўшы па Другой сусветнай вайне ў Амерыку, самаахвярна працавалі, каб пашырыць у амерыканскім грамадстве інфармацыю пра паняволеную камунізмам Беларусь і гэтым паспрыяць ейнаму здабыццю незалежнасці; 2.паказанне, як эфектыўным інфармацыйным сродкам сталася для новапасяленцаў-беларусаў народнае мастацтва ў распаўсюджванні палітычных ідэй і фактаў з гісторыі Беларусі; 3. прадэманстраванне на прыкладзе беларускіх фестываляў і выставак, як амерыканскі лад жыцця дае кожнай этнічнай групе магчымасць перахоўваць сваю культурную спадчыну ды гэтым спрыяе акультурванню грамадства, выпрацоўванню ў ім мірнага суіснавання прадстаўнікоў розных этнасаў, а гэтым — выпрабленню адзінства амерыканскае нацыі; 4. паказанне палітолагам дадатковага матэрыялу для развагі над працэсам фармавання нацыянальнае свядомасці беларусаў, якія знаходзяцца сёння на раздарожжы паміж этнічнай мадэллю і грамадзянскай, якое актуальнае не толькі для Беларусі, але і для ўсяе Заходняе Еўропы.

У кнізе, апрача змястоўнага апісання культурнай дзейнасці, змешчана шмат здымкаў (прытым каляровых), якія гэтую дзейнасць вобразна пацвярджаюць. Асаблівую ўвагу прыцягваюць нацыянальныя касцюмы — іх багацце і рукадзелле іх выканання. Як жа мы ўсе бедныя, калі глядзець на фабрычныя касцюмы з Беларусі, у якіх выступаюць калектывы Беласточчыны. Трэба мець надзею, што амерыканскія беларускія касцюмы захаваліся для наступных пакаленняў, як амаль музейныя экспанаты. Уражвае багацце культурнага жыцця беларусаў у Амерыцы і тое, што пакаленне паваенных беларускіх эмігрантаў-бацькоў здолела захаваць для беларускай дзейнасці сваіх дзяцей, што не распыліліся яны ў доларным багацці, як нам атаясамлівалася некалі Амерыка. Усяму гэтаму дапамагло патрыятычнае беларускамоўнае ўзгадаванне. Хаця жылі яны далёка ад бацькаўшчыны ў англамоўным асяроддзі, але яна назаўсёды засталася ў іхніх душах, не дазваляла забыць адкуль яны родам, нягледзячы на абыякавасць Савецкай Беларусі да сваіх суродзічаў, якіх лічылі здраднікамі айчыны.

Янка Запруднік піша: „Па прыбыцьці ў ЗША ў канцы 1940-х — пачатку 1950-х людзі, пры ўсіх сваіх бытавых праблемах, не занядбоўвалі й духовых патрэбаў. Асядаючы на сталае жыхарства, яны адразу ж пачыналі засноўваць царкоўныя прыходы, арганізацыі, таварыствы, у тым ліку і культурнага профілю. Пагатоў, што многія былі знаёмыя адзін з адным, калі ня з Бацькаўшчыны, дык зь лягеру ДП у паваеннай Нямеччыне” (с. 88-89).

Прысутнасць сярод эмігрантаў харыстаў і музыкаў паспрыяла захаванню скарбаў беларускага фальклору — народных песень і танцаў. І важна тое, што гэтая народная культура, прывезеная з бацькаўшчыны, была гонарам беларускай эміграцыі і ўзбагачала сваёй прысутнасцю амерыканскую культурную прастору, даходзячы да амерыканскага грамадства даказвала існаванне беларускай нацыі ў свеце.

Важнай праявай дзейнасці беларусаў у Нью-Джэрзі быў Першы беларускі фестываль, які адбываўся 12 чэрвеня 1976 г. у штатным Цэнтры мастацтваў з нагоды 200-х угодкаў ЗША. Беларусы напярэдадні атрымалі віншаванне ад прэзідэнта ЗША Джэральда Форда. Багацце праграмы фестывалю абымала канцэрты і танцы, паказ народных касцюмаў, выстаўку мастацтва і беларускіх выданняў. Былі таксама беларускія стравы і сувеніры. На фестывалі сабралася звыш трох тысяч чалавек, на адной сцэне адно выступіла 160 выканаўцаў. Пішучы гэта думаю: а колькі людзей збірае Свята беларускай песні ў Беластоку, якое мне здаецца намнога скрамнейшым, хаця адбываецца на этнічных беларускіх землях.

Другі такі фестываль адбыўся праз год — 21 траўня 1977 г. Весткі пра яго дайшлі па-за межы Амерыкі — прывітанні прыслалі беларусы з Аўстраліі. З Польшчы адгукнуўся Мікола Гайдук, які ўпершыню даведаўся, што ў ЗША ёсць беларускія арганізацыі і праводзяць такую маштабную дзейнасць. Беларускімі фестывалямі зацікавіліся таксама ў Беларусі.

Трэці фестываль адбыўся 19 траўня 1979 г. Беларусы ўдзельнічалі таксама ў іншых этнічных фестывалях і выстаўках, упісваючыся гэтым самым у амерыканскае дэмакратычнае грамадства. Беларуская прысутнасць у Амерыцы была важная перадусім з-за таго, што Беларусь не існавала як асобная дзяржава, а далёка ад яе існавала беларуская грамадскасць са сваёй культурай і нацыянальнай традыцыяй, з бел-чырвона-белым сцягам і пад гербам Пагоня, якая даказвала свету, што ёсць такая нацыя як беларусы, якая мае права на сваю дзяржаўнасць. Сваёй актыўнай дзейнасцю беларусы ў ЗША выклікалі зацікаўленне мясцовых медыяў — прэсы і тэлебачання — беларускім феноменам, пра што таксама можна прачытаць у кнізе.

У кнізе змешчаны таксама гістарычнае (апублікаванае ў „Беларусе” ў 1978 г.) інтэрв'ю з Вітаўтам Кіпелем, які тады узначаліў Этнічную раду штата Нью-Джэрзі (с. 168-173), успаміны Тамары Стагановіч-Кольбы (с. 160-164), некалькі забаўных эпізодаў, успомненых Надзяй Запруднік (с. 149-154).

Янка Запруднік у заключэнні напісаў: „На працягу другой палавіны мінулага стагодзьдзя, у выніку інфармацыйнай дзейнасьці ўва ўсіх месцах дыяспарнага расьсяленьня, веда пра Беларусь, кропля па кроплі, прасякала ў амэрыканскія СМІ ды ў палітычныя структуры штатнага і фэдэральнага ўзроўню. І калі Прэзыдэнт Джордж Буш прызнаў у сьнежні 1991 году незалежнасьць Рэспублікі Беларусь, дык урад Злучаных Штатаў знаў пра палітычныя памкненьні беларусаў значна больш, чым у канцы 1940-х гадоў, калі ў Амэрыку пачалі прыбываць першыя будучыя „інфарматары” — удзельнікі фэстывальна-выстаўчнай дзейнасьці” (с. 176).

Пераглядаючы і перачытваючы кнігу цяжка не пагадзіцца са словамі Янкі Запрудніка: „Гісторыя беларускіх фэстываляў у Нью Джэрзі — гэта ня толькі апісаньне тэрапэўтычнай дзейнасьці групы суродзічаў параненых настальгіяй па роднай зямлі. У глыбейшым сэнсе — гэта хада да свабоды празь інфармацыю, гэта трансфармаваньне інфармацыі ў веду, г.зн. веду ў амэрыканскіх палітычных колах пра заціск свабоды ў Беларусі. Ад веды пра Беларусь, верылі інфарматары, будзе залежаць дапамога ёй у змаганьні за незалежнасьць, за дэмакратыю”. Я шмат чаго даведалася з гэтай кнігі, шмат што пабачыла на здымках — нават выразаных у дрэве Кірылу і Мяфодзія Уладзіміра Наўмюка з Канюкоў. Натхняе гэта ўсё і напаўняе пазітыўнай энергіяй!

**Лена ГЛАГОЎСКАЯ**

Jan Zaprudnik, *Belarusian Festivals and Exhibitions in New Jersey. Political Information Through the Language of Art (1948-2011)*, Belarusian Institute of Arts and Sciences, New York 2013, ss. XVIII + 198.




Ніна ЦЫВАНЮК (1930 - 2013)

## Я не магістр

*Я не магістр і не паэтка,*
*Я простая жанчына з Гарадка,*
*Вялікай адуакацыі не маю*
*І пэўна ў тым мая бяда.*

*Пішу на мове гарадоцкай,*
*На гэтай мове мае продкі гаварылі,*
*Яны маіх бацькоў, мяне таксама*
*Роднай мове навучылі.*

*На мове гарадоцкай*
*Магу пра ўсё я напісаць;*
*Літаратурных слоў калі шукаю,*
*Не ўмею сваіх думак расказаць.*

*Не крытыкуйце вы мяне*
*Вучоныя, вялікія паэты*
*За тое, што на гарадоцкай мове*
*Пішу свае куплеты.*

## Гарадок мой, Гарадок

*Гарадок мой, Гарадок,*
*Ты Супрасля браток.*
*Нашыя прадзеды, дзяды*
*Тут сваё шчасце будавалі.*

*Над Супраслю-ракой,*
*У ціхай даліне,*
*Разлажыўся Гарадок,*
*Бы кветкі на каліне.*

*Нас сюды не прывязлі,*
*Не далі зямлі ў падарках,*
*Ад вякоў мы тут жылі*
*У драўляных хатках.*

*Хоць саламяная страха*
*Ды палоска вузкая,*
*У кожнай хатачцы гучала*
*Мова беларуская.*

*Наш народ пражыў усё:*
*Гора ды нядолі.*
*На каленях перад злом*
*Не стаяў ніколі.*

*Ён з паднятай галавой*
*Раны свае лечыў*
*І прыгнёт цароў, паноў*
*Скідаў з сваіх плечаў.*

*Гарадок мой, Гарадок,*
*Я табой ганаруся.*
*Гарадчане роднай песняй*
*Славяць беларусаў.*

## Дажынкі

*У народзе кажуць:*
*Зямля ёсць дарам Божым,*
*Галоднага яна накорміць,*
*Калі яе абсеем збожжам.*
*Ад вякоў хлебаробы*
*Да зямлі пашану маюць,*
*Калі збожжа пасеюць,*
*Пра пасевы дбаюць.*
*Цешацца, як са сцяблінак*
*Каласкі выплываюць,*
*Палеткі красуюць,*
*А ў каласках зярняткі даспяваюць.*
*За маёй маладосці*
*Збожжа сярпамі жалі,*
*Скручанымі пярэвясламі*
*Снапы вязалі.*
*Снапы на полі як салдаты ляжалі,*
*Жнеі па пожні хадзілі,*
*У дзесяткі снапочкі складалі.*
*Дзевяць снапоў*
*Адзін да аднаго тулілі,*
*З дзесятага снапа*
*Страху рабілі.*
*Такою страхою*
*Кожны дзесятак накрывалі,*
*Каб дожджык снапоў не мачыў,*
*Птушкі зерня не выядалі.*
*Жыта дажалі,*
*Перапёлку ўбралі,*
*Ідучы да двара*
*Дажынкі спявалі.*
*Аб чорных дзянёчках,*
*Недаспаных ночках,*
*Аб панах багатых*
*І аб іх душах лахматых.*

## Родны куток

*Мая маленькая айчына,*
*Мой Гарадоцкі край гасцінны!*
*Збожжам залочаны палеткі,*
*А на лугах красуні-кветкі,*
*Чабарочак пры дарозе.*
*Верабейчык на бярозе,*
*Буслоў цыбатых клекатанне,*
*У лужынах жаб рэхатанне.*
*Гоман дрэў стогадовых*
*У дубровах загадковых.*
*Трэлі птушачак над ранкам,*
*Пах чарэмшыны над ганкам.*
*Ранкі светлыя з расою,*
*Сполах качак над ракою.*
*Цёплыя ўлетку ночкі,*
*Блакітныя ў жыце васілёчкі.*
*І лета бабіна ўвосень,*
*Адлёт свой жураўлі галосяць.*
*Дзякуй, мой Гарадоцкі краю!*
*Заўсёды я цябе кахаю.*
*І быццам родная матуля*
*Мяне ты да сябе прытуліш.*

## Не кукуй, зязюлька

*Не кукуй, зязюлька, доўга –*
*Не лічы гадоў маіх.*
*Пражыла я мо і многа,*
*А здаецца – адзін міг.*

*Я не ўмею сумаваці,*
*Наракаці на свой лёс,*
*Цешуся ўсім тым,*
*Што дзень прынёс.*

*Усё жыццё праспявала,*
*Хоць кошкі душу драпалі.*
*Часта з гора я спявала,*
*Хоць вочы мае плакалі...*

*Я ў згодзе жыву з лёсам,*
*Яго я добра разумею,*
*Магла б жыць цяпер інакш.*
*Не хачу! – бо інакш не сумею.*

# http://reporterra.org




Быць журналістам у сённяшняй Беларусі і цікава, і небяспечна адначасова. Цікавасць у тым, што тэм для вартых увагі матэрыялаў больш чым дастаткова. Куды не кінь вокам усюды можна ўбачыць такія канфлікты інтарэсаў, ад якіх можа лёгка павысіцца крывяны ціск. Тыя ж міліцэйскія хапуны, несправядлівыя суды, карупцыя, што пранізвае наскрозь усё беларускае грамадства, пачынаючы ад самага верху, палітычны пераслед і цкаванне апазіцыі, дэманстратыўнае грэбаванне беларускай мовай, парушэнне працоўных і іншых правоў і гэтак далей. Але небяспека крыецца ў тым, што будучы, як належыць журналісту, у гушчы падзей, ён лёгка можа аказацца за кратамі, яго могуць аштрафаваць, адабраць і сапсаваць апаратуру, ды і ўвогуле нанесці цялесныя пашкоджанні. Таму на пытанне аб тым, ці варта быць у Беларусі журналістам (не блытаць з прапагандыстам), кожны мае адказаць самастойна, тысячу разоў усё грунтоўна ўзважыўшы.

Праўда, нягледзячы на знешнюю непрывабнасць журналістыкі ў Беларусі, яна па-ранейшаму прыцягвае да сябе маладых людзей, якія лічаць, што ім ёсць пра што распавесці грамадству. Менавіта для такіх, пэўна, і прызначаны сайт «Reporterra», што гучна называе сябе «супольнасцю маладых журналістаў Беларусі» і месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://reporterra.org.**

Выгляд галоўнай старонкі сайта даволі прывабны. Жоўта-аранжавыя лініі, выявы чалавечкаў-журналістаў і простая навігацыя прымушае застацца на ім больш-менш працяглы час.

Сайт мае многа рубрык. Палова з іх абазначае гарады цэнтральнай і заходняй Беларусі — Баранавічы, Барысаў, Берасце, Ганцавічы, Гародня, Жодзіна, Лунінец, Маладэчна, Слонім і Слуцк. Па ўсім відаць, такое дзяленне прызначана для інфармацыі, што паступае ад журналістаў з гэтых гарадоў. Праўда, калі клікнуць на некаторыя з гэтых рубрык, то ніякай інфармацыі там не знойдзеш. Тое тычыцца Ганцавічаў, Жодзіна і Слоніма.

«Reporterra.org — партал маладых журналістаў Беларусі. Пры розных рэгіянальных СМІ ўжо не першы год дзейнічаюць Школы малодога журналіста, у якіх вопытныя калегі вучаць асновам рамства пачаткоўцаў. Гэты сайт збірае плён працы ўсіх Школак, каб паказаць, што ў беларускай журналістыкі ёсць заўтрашні дзень! Лакальная задача сайта — даць магчымасць навучэнцам усіх Школак сачыць за творчасцю адно аднаго, абмяркоўваць тэмы і матэрыялы, кантактаваць на форуме, спрачацца па праблемах прафесіі. Агульная задача сайта — даць чытачу магчымасць адсочваць рэгіянальныя навіны вачыма маладых журналістаў. Апроч навін і сюжэтаў, сайт напаўняецца мультымедыйнымі матэрыялымі: відэа, фота, аўдыё, схемы і ілюстрацыі», — прэзентуюць свой сайт яго невядомых ўладальнікі на старонцы «Маніфест».

Нягледзячы на тое, што ўсе рубрыкі на сайце падаюцца па-беларуску, той, хто не ведае рускай мовы, не здолее прачытаць там добрую палову інфармацыі. У гэтым бачыцца адна з галоўных хібаў сайта — ён не мае розных моўных версій, хоць тэксты падаюцца на дзвюх мовах.

Праўда, з большага сайт вельмі цікавы і карысны. Прычым не толькі артыкуламі маладых журналістаў. На старонцы «Мультымедыя інструкцыі» можна даведацца як трэба апрацоўваць фота-, аўдыё- і відэафайлы.

■ **Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з Календара

Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара



Дарыў людзям беларускае слова

# 120 гадоў з дня нараджэння Францішка ЧАРНЯЎСКАГА

Пра беларускага каталіцкага святара, рэлігійна-асветнага публіцыста, выдаўца, дзеяча нашай эміграцыі Францішка Чарняўскага ведаюць нямногія нават у беларускіх колах. Часта так здараецца, што выдатная асоба застаецца ў цяні іншых, можа не менш вартых ушанавання, імёны якіх на слыху.

Нарадзіўся Францішак Чарняўскі 15 лістапада 1893 года ў вёсцы Чухны Ашмянскага павета (сёння гэтая мясцовасць у складзе Смаргонскага раёна) у сялянскай сям'і. Яго бацькі — Ян Чарняўскі і Ганна з дому Гецэвічаў. Скончыў гарадскую вучэльню ў Ашмяне, а з 1916 года стаў клірыкам і навучаўся ў Віленскай духоўнай семінарыі. Пра гэты перыяд Чарняўскі пакінуў успаміны, згадваючы, між іншым, што з 70 кандыдатаў у святары роўна палова — 35 — былі беларусамі. А нейкі Кароль Любянец, інспектар установы, з гэтай нагоды вельмі пераймаўся. Добра, што беларускасці спрыяў тады біскуп Юры Матулевіч.

На ксяндза Францішак Чарняўскі быў высвечаны 30 траўня 1920 года з накіраваннем на душпастырскую працу ў Сухаволю на Беласточчыне. У гэты час там пробашчам быў Антоні Гайлевіч, які пісаў даносы на маладога вікарыя з-за яго беларускасці. Пэўны час Чарняўскі выконваў святарскія абавязкі ў Саколцы і Кузніцы. Прамаўляў казані па-беларуску, распаўсюджваў сярод прыхаджан беларускія кніжкі і перыядычныя выданні. У 1924-1927 гадах праходзіў тэалагічнае навучанне ў Грыгарыянскім універсітэце і Усходнім Папскім інстытуце ў Ватыкане. Там абараніў магістарскую дысертацыю. У 1927 годзе вярнуўся ў Беларусь, паступіў у навіцыят у манастыры марыянаў у Друі, нейкі час там жыў, аднак неўзабаве пакінуў яго пасля таго, як Фабіян Абрантовіч быў накіраваны ў Харбін. Сябра беларускай дэлегацыі на V Уніяцкім кангрэсе ў Велеградзе (Чэхаславаччына), які адбыўся ў 1927 годзе. З 1929 года — удзельнік каталіцкай місіі беларусаў і палякаў у Францыі, дзе вёў працу сярод вуглякопаў. З 1933 года — у Бельгіі. У 1953-1955 гадах Францішак Чарняўскі жыў у бенедыктынскім кляштары, рэдагаваў бюлетэнь „Божае слова". У 1957 годзе пераехаў у Амерыку, дзе служыў святаром і выдаваў беларускі рэлігійны часопіс „Siaúbit". Працаваў у шэрагу амерыканскіх каталіцкіх парафій на пасадзе вікарыя. Выступаў з малітвамі ў Кангрэсе ЗША. Апошнія гады душпастырства правёў у мясцовасці Форт-Эдвард.

Памёр Францішак Чарняўскі 31 траўня 1979 года ў амерыканскім гарадку Амстэрдам (штат Нью-Йорк).

Справу беларускага святара прадоўжыў яго пляменнік ксёндз Уладзіслаў Чарняўскі, таксама выдатны чалавек, які нёс людзям Божае слова на роднай мове. Памяць пра Францішка Чарняўскага у сённяшняй Беларусі не ўшанаваная ніяк.

■ **Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Першая сустрэча на тэму могілак

У Гмінным асяродку культуры ў Нараўцы (Гайнаўскі павет) сустрэчу на тэму могілак у Нараўчанскай гміне ладзілі ўпершыню. 2 лістапада гэтага года адбылася яна ў кіназале ГАК. Вялі яе Кацярына Бяляўская і Антон Рэмеш. Пра могілкі на тэрыторыі Нараўчанскай гміны цікава распавяла Кацярына Бяляўская (яна — кіраўнічка Гміннай галерэі імя Тамары Саланевіч у Нараўцы).

У Ляўкове першыя могілкі былі над ракою Нараўкай, на ўзгорку, дзе зараз знаходзіцца капальня гліны, а другія — за царквой. Сённяшнія — трэція — былі заснаваны ў Новым Ляўкове ў 1845 годзе. Аднак першыя пахорыны на ім адбыліся ў 1882 годзе. Зараз могілкі складаюцца з дзвюх частак: старой і новай. На новай частцы пачалі хаваць памерлых у 1964 годзе. У гэтым самым годзе пабудавалі тут капліцу. На могілках пахавалі звыш 2 тысячы чалавек.

У Семяноўцы могілкі заснавалі ў 1956 годзе і дагэтуль тут пахавалі 780 асоб. Варта дадаць, што ад 1869 па 1956 год памерлых у Семяноўцы і ваколіцы хавалі на могілках у Нараўцы. Ёсць такія меркаванні, што перад 1869 годам памерлых хавалі на невялікім узвышшы, дзе зараз знаходзіцца чыгуначны вакзал. Першыя весткі пра даўнія праваслаўныя могілкі паходзяць з 1932 года. Пазначаны яны на геадэзічнай карце з таго ж года. Калі раскапалі ўзгорак і пракладалі чыгунку ў 1952 годзе, то тут знахо-дзілі яшчэ труны са шкілетамі.



Кася Бяляўская і Антон Рэмеш

У Нараўцы зараз ёсць старыя і новыя праваслаўныя могілкі. Парафію тут заснавалі ў 1869 годзе. Каталіцкія могілкі заснавалі ў 1908 годзе. Кіркут (яўрэйскія могілкі) быў заснаваны ў 1927 годзе.



Лявон Хлябіч

Падчас сустрэчы тры вучаніцы Комплексу школ у Нараўцы выдатна чыталі вершы і быў прадэманстраваны паўгадзінны каляровы кінафільм пра могілкі. Прысутныя даведаліся, між іншым, што на яўрэйскіх могілках не здымаюць шапак з галавы, не ставяць зніч і не прыносяць кветак. Ля мацэваў не вырываюць кусцікаў і іншых раслін.

Пра бацькоўскую памінальную суботу (Дзяды) займальна расказаў радны Нараўчанскай гміны Лявон Хлябіч з Нараўкі.

На заканчэнне першага такога роду мерапрыемства ў Нараўцы быў пачастунак (г.зв. шведскі стол). Яго падрыхтавала кіраўнічка святліцы ў Нараўцы Нэля Харкевіч.

**Тэкст і фота Янкі Целушэцкага**

# Ніколі не забудзем

У цэнтры Нараўкі (Гайцнаўскі павет), ля скрыжавання галоўных вуліц Міцкевіча і Гайнаўскай, стаіць вялікі помнік у гонар загінуўшых у барацьбе з фашызмам. Да 2008 года быў ён агароджаны і была брама. Пасля маёй крытыкі, што агароджа вакол помніка і брама паіржавелі, а з цокаля адпала некалькі плітак і таму неабходна паклапаціцца пра помнік і агароджу вакол яго — старую агароджу і браму разабралі. Новай не паставілі.

Сёлета, калі вакол помніка былі гурбы апаўшага сухога лісця, яго акуратна згрэблі і вывезлі. Але пра тое, каб запаліць хаця б адзін зніч, ужо ўсе забылі.

Памяць пра барацьбітоў за свабоду — жыхароў Нараўчанскай гміны — павінна быць вечнай! А помнік пра гэта хай напамінае. Мы павінны дбаць пра месцы народнай памяці. Не толькі дзеля чарговых гадавін!

А як ёсць зараз? Праходзіць год за годам і — па ўсім відаць — мы ўсе — моладзь і старэйшыя — ужо забываем і забываем. У Нараўцы ёсць вялікая школа і ў ёй вучыцца многа дзяцей і моладзі. Нядаўна была нагода — 1 верасня. Сёлета вучні навуку пачалі 2 верасня. Ці ў школе настаўнікі не напомнілі пра трагічную гадавіну вайны? Ці можа зусім забылі, чыё імя прысвоіла іх школа? А тут жа ад школы да помніка — рукой падаць.

Варта дадаць, што нядаўна пра патрона нараўчанскай школы была адметная перадача па Радыё Рацыя. Яна спрычынілася да таго, што ў тутэйшых людзей і не толькі нанава ажылі ўспаміны пра той суровы час змагання за свабоду барацьбітоў з Нараўкі, Ляўкова, Заблотчыны, Ахрымоў і іншых вёсак. Пра іх нам нельга забываць. Яны ў сардэчнай памяці іх родных і самых блізкіх суседзяў. Пра іх, а ў тым ліку перш-наперш пра Аляксандра Валкавыцкага так цёпла яны распавялі перад мікрафонам. Запіс гэтай вельмі цікавай радыёперадачы павінен быць у школе ў Нараўцы і выкарыстоўваны на ўроках гісторыі і беларускай мовы. Тады і пра помнік у гмінным цэнтры вучні не забывалі б. І свае веды пра драматычныя падзеі ў мінулым пашырылі б.

**(яц)**

# Конкурс

## Зберагчы ад забыцця

Таварыства сяброў Нараўчанскай зямлі запрашае ўсіх зацікаўленых да ўдзелу ў конкурсе пад лозунгам „Зберагчы ад забыцця (людзі, традыцыі, факты, месцы)". Можа гэта быць літаратурная праца, інтэрв'ю, рэпартаж ілюстраваны здымкамі, фотарэпартаж.

Працы дасылаць да 30 ліпеня 2014 года на адрас: Гмінны асяродак культуры, 17-220 Нараўка, вул. Новая, 3А.

Па дэталёвую інфармацыю можна звяртацца да кіраўнічкі Гміннай публічнай бібліятэкі ў Нараўцы Анны Стульгіс пад нумар тэлефона 85 685 80 34 (працуе яна ад 10 да 18 гадзіны). **(яц)**

# Адгаданка

1. легкавы аўтамабіль, у якім можна адкідаць верх, 2. становішча, у якім выбар аднаго з двух супрацьлеглых рашэнняў аднолькава складаны, 3. рэжучы інструмент для апрацоўкі цвёрдых матэрыялаў, 4. спрытнасць, выкрутлівасць, 5. горад на паўночным захадзе Ганы, 6. іранская грашовая адзінка, 7. Грыгорый, царкоўны дзеяч ВКЛ, які ў 1416 годзе перанёс мітрапаліцкую кафедру з Кіева ў Наваградак, 8. тапаграфічная адзінка ў населенай і забудаванай мясцовасці, 9. сірыйскі горад між Дамаскам і Хамай, 10. палка для гульні ў більярд... легендарнага заснавальніка Кіева, 11. светла-карычневы колер з ружова-жоўтым адценнем, 12. чырвоная пахучая лясная ягада.

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | 2 | | | | | 3 | | | |
| | 4 | | | | | | | | | | |
| | | | | 5 | | 6 | | | 7 | | |
| | | | | | | | | | | | 8 |
| | | 9 | | 10 | 11 | | 12 | | | | |

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — чэшская пагаворка. **(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 41 нумара**

Дыета, Ілі, Лена, меса, Піза.

Рашэнне: **І мілае ідзе на пастылае**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Казімеру Радошку** са Свебадзіцаў і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# 17.11 — 23.11

**(22.03. — 20.04.)** Прыйдзецца заняцца сумеснымі праектамі з былымі ворагамі і канкурэнтамі. Выкарыстоўвай па максімуме ўсе свае рэзервы і сілы. Інвестыцыі, уласнасць, нерухомасць, страхаванне і падатковыя скідкі павінны прынесці фінансавы прыбытак. Магчымыя невялікія праблемы са здароўем — прастуда, ангіна ці грып. Будзь стрыманы ў панядзелак — вельмі многае будзе залежаць ад умення трымаць сябе ў руках. Не давай неабдуманых абяцанняў і не патурай сваім жаданням.

**(21.04. — 21.05.)** 17.11. раптоўны зварот у сямейных адносінах, новы, лепшы раздзел у пачуццёвым жыцці. Зможаш зрабіць вельмі многа, але не бярыся за ўсё адразу. Хтосьці ці штосьці будзе сур'ёзна залежаць ад твайго меркавання і ад тваіх рашэнняў. Скарыстай стварыўшайся перавагай, не слухай угавораў і рабі так, як табе выгадна.

**(22.05. — 22.06.)** Будзь гатовы да прыходу няпрошаных гасцей (хутчэй за ўсё, гэта могуць быць звычайныя мышы). У аўторак знойдзеш тое, што даўно шукаў. Серада — вельмі неспакойны дзень, з праблемамі ў зносінах з блізкімі і знаёмымі. У чацвер дасць аб сабе ведаць стары канфлікт. Цябе паспрабуюць вывесці з раўнавагі. Трымайся ў баку ад непрыемных людзей, гатовых да падвоху і правакацыі. У пятніцу час перамен, часам нечаканых, але вельмі жаданых.

**(23.06. — 23.07.)** 17-21.11. знакамітая форма цела і духу. Не абяцай большага, чым можаш зрабіць. Зачыні дзверы перад тымі, хто спрабуе адабраць у цябе каштоўны час; толькі тая непахіснасць і цвёрдасць захавае цябе цяпер ад лішніх праблем. Хтосьці будзе настойліва спрабаваць сесці табе на шыю ў чацвер.

**(24.07. — 23.08.)** З 22.11. не павучай іншых, слухай парад. Калі на працягу гэтага тыдня чужы сабака забяжыць у твой дом, гэта добры знак, які прадказвае табе поспех з дапамогай наваколных. Калі ты калісь аказаў камусьці вялікую паслугу, то цяпер і ты можаш разлічваць на зваротную дапамогу. У адносінах з начальствам не рэкамендуецца табе губляць пачуцця меры і такту. У панядзелак пастарайся пазбегнуць сваркі з каханым чалавекам. Устрымайся ад цяжкай ежы ў аўторак. Не абяцай у сераду лішняга.

**(24.08. — 23.09.)** 17-21.11. — энергія і запал да працы, шмат што пойдзе па тваёй думцы. 19-23.11. — пераломныя дні ў тваім прафесійным жыцці; вельмі добрыя фінансавыя прапановы. Трымайся планаў і ўсталяванага бюджэту — будуць прыбыткі і добрыя віды на будучыню! Калі ты быў у сварцы са сваім каханым ці каханай, то гэты тыдзень прынясе вам прымірэнне. Мужчынам было б нядрэнна падлячыць старую хваробу, але ўстрымайцеся ад сур'ёзных хірургічных умяшанняў.

**(24.09. — 23.10.)** 17-21.11. — Шалі, што ўздымаюцца па кар'ернай лесвіцы, атрымаюць падтрымку ад Юпітэра, пакажуць сваю арыгінальнасць і вялікую адвагу. Мітусня вакол бытавых спраў цяпер можа нанесці шкоду твайму самаадчуванню. Знойдзеная ў сераду выгнутая або зламаная манета з'яўляецца знакам любоўнай здрады.

**(24.10. — 22.11.)** 19-23.11. — вялікая бліскучасць, кемлівасць, дыскусіі будуць тваёй стыхіяй — паваліш усіх працаўнікаў. Раптоўныя змены ў тваім жыцці могуць скончыцца вялікімі стратамі. На гэтым тыдні можаш выдаткаваць марна або проста страціць значную суму грошай. Адмоўся ад сумніўных здзелак і адкладзі буйныя пакупкі.

**(23.11. — 22.12.)** Шмат сілы і трываласці. Маеш шанцы паставіць на сваім. Сустрэчы з прыемнымі людзьмі. Чакаюць цябе станоўчыя эмоцыі, новыя знаёмствы і шмат поспехаў за ўсіх справах. Будзь актыўным і ініцыятыўным.

**(23.12. — 20.01.)** Вялікі прыліў жарсцяў (горш — для самотных). З 21.11. (да 25.11.) усміхнецца табе лёс, родныя адобраць твае задумы. Асабліва спрыяльная першая палова тыдня. У другой палове тыдня асабліва нервова будуць прымацца іншымі людзьмі ініцыятывы і праявы самастойнасці з твайго боку.

**(21.01. — 19.02.)** 19-23.11. добры час на новыя мерапрыемствы, прыліў сіл, вырашэнне некаторых прафесійных праблем. Маеш шанц на фінансавую стабілізацыю, ды адмоўся ад непрадуманых пакупак (рабі інвестыцыйныя планы, тады здабудзеш множства). З 22.11. (да 26.11.) лёгка цябе будзе падвесці.

**(20.02. — 21.03.)** 17-19.11. будзеш бестурботны і легкадумны, не вырашай цяпер важнага. 18-22.11. турбаваць цябе будуць галаўныя болі (спрабішся з імі пры дапамозе натуральнай медыцыны). 22-23.11. не ўсё пойдзе згодна з планам, можаш моцна паспрачацца з блізкай асобай.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**


Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00]. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2013 roku — 52.
**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 350 egz.


Язэп Карпюк

Міра ЛУКША

# Адышоўшым

*Сціхае сцежка ў мроіве на небасклоне*
*Хвалююцца жыты ў васільках у паклоне.*
*Ідуць яны, а спіны іх ўжо не сагнёны,*
*Бо іх багаж жыццёвы – у травах зялёных.*
*Пасеяна, дагледжана і зжата*
*Ніва, і снапкі ў дзесятках,*
*Ды каласкі збірае гаспадар упарты,*
*Бо зерне, што ўпала – паратунку варта.*
*Ён нават з таго боку ніву даглядае,*
*Свой вольны дух нашчадкам высылае*
*І ў мроіве сыходзіць на палетак*
*У дожджыку здаровым сухім летам,*
*У песні, што жаўруком узаўецца,*
*Што адазвецца і слязой, і ў сэрцы.*
*Ідзем за імі па той сцежцы жніўнай,*
*Па пожнях, у спёцы, халадах і ліўнях.*
*А крыж распяты паміж раллёй і небам*
*Яднае нашы думкі, мары, род і глебу.*


Мікалай Лук'янюк


Таццяна і Сакрат Яновічы


Віктар Волкаў


Георгій Валкавыцкі



Юры Гумянюк


Уладзімір Гайдук


Алена Анішэўская


ISSN 0546-1960